• выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА • кошт 3000 рублёў

17 красавіка 1998 г. пятніца, № 86 (23437)



# ЗВЯЗДА

## ПРЭЗІДЭНТ ПРЫНЯЎ ПРЭМ'ЕРА

Як паведамілі БЕЛТА з прэсслужбы Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, 15 красавіка 1998 г. А.Р.Лукашэнка прыняў прэм'ер-міністра С.С.Лінга.

Кіраўнік урада далажыў кіраўніку дзяржавы аб выкананні даручэнняў па фарміраванню навукова-тэхнічных праграм і ўдзелу ў іх Нацыянальнай акадэміі навук.

С.С.Лінг праінфармаваў прэзідэнта аб выніках работы народнай гаспадаркі і выкананні зацверджаных паказчыкаў на 1 квартал гэтага года. Кіраўнік дзяржавы ўказаў на неабходнасць бесперабойнага забеспячэння спажывецкага рынку таварамі і паслугамі і даручыў узмацніць работу па зніжэнню ўзроўню інфляцыі.

Прэзідэнту краіны далажана таксама аб пачатай рабоце па прагнозу развіцця народнай гаспадаркі рэспублікі і праекту бюджэту на 1999 год. Кіраўнік дзяржавы даручыў ужо на пачатковым этапе распрацоўкі названага дакумента прадугледзець у праекце бюджэту павелічэнне расходаў на навуку, і ў першую чаргу — на фундаментальныя навуковыя даследаванні.

**БЕЛТА.**

## АСЦЯРОЖНА: БОМБА!

Дзіўны пакет быў знойдзены 11 красавіка дзяжурным віцебскага раённага аддзела «Ахова» ля цэнтральнага ўваходу ў адзін з гарадскіх магазінаў. У пакеце знаходзілася пластмасавая скрынка з алюмініевымі трубкамі, залітымі цёмна-жоўтай масай. Прыбыўшыя на месца здарэння супрацоўнікі праваахоўных органаў эвакуіравалі жыльцоў бліжэйшых дамоў. Група размініравання падаспела да небяспечнай тэрыторыі апошняй, праз 30 хвілін пасля выкліку (чакалі пісьмовага ўказання УУС на выезд). Вышэйпамянёнае ўстройства было вывезена ў кар'ер і знішчана, рэшткі адпраўлены на экспертызу, але ў тым, што ў прадмеце знаходзіўся тратыл, ніхто з сапёраў не сумняваўся. Пасля была абследавана ўся тэрыторыя, што прылягае да магазіна: ніякіх падазроных прадметаў больш не знайшлі. У ходзе расследавання высветлілася, што прыкладна за дзве гадзіны да трывожнага паведамлення «нічыйны» пакет знайшлі дзеці на прылаўку гандлёвага кіёска. Малыя сказалі аб гэтым гаспадару кіёска, пажартаваўшы: «Дзядзька, у вас тут бомба!» Гандляр папрасіў дзяцей аднесці куды-небудзь гэты пакет. Такім чынам, прадмет перакачаваў на парог магазіна.

Хто гаспадар пакета і каму прызначаўся гэты падарунак, трэба высветліць работнікам УУС.

**Аляксандра ВІШНЕЎСКАЯ.**

## ПАРЛАМЕНТАРЫІ РАСІІ І БЕЛАРУСІ ЗБЯРУЦЦА Ў ГОМЕЛІ

Восьмая сесія Парламенцкага сходу Саюза Беларусі і Расіі, якую мяркуецца правесці 4-5 мая ў Гомелі, абяцае быць плённай. Так лічыць Старшыня Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Беларусі Павел Шыпук. Ён сказаў карэспандэнту БЕЛТА, што задаволены тым, як мясцовыя ўлады ажыццяўляюць падрыхтоўку да сесіі. Што ж датычыць яе канчатковага парадку дня, то ён будзе зацверджаны ў бліжэйшы час у Маскве.

**Віктар КОТАЎ, БЕЛТА.**





**Барыс ЦЯЎХОЎСКІ** і **Раман АНАНЬЕЎ** з калгаса імя Суворава Стаўбцоўскага раёна вядуць сяўбу яравых і спадзяюцца на добры ўраджай.

**Фота Васіля ЗЯНЬКО.**

## АПТЫМАЛЬНАЯ СХЕМА РАЗЛІКАЎ ЗА НАФТУ БУДЗЕ ЗНОЙДЗЕНА І РЭАЛІЗАВАНА

**Пытанні рэгулявання ўзаемаразлікаў за энерганосьбіты, што пастаўляюцца ў Беларусь, былі разгледжаны на сустрэчы прэзідэнта нашай рэспублікі Аляксандра Лукашэнкі з кіраўнікамі расійскіх нафтавых кампаній.**

Іх прадстаўлялі прэзідэнты «ЛУКойла» Вагіт Алякпераў і «Славнафты» Анатоль Фамін, першы віцэ-прэзідэнт «Сургут-нафтагаза» Мікалай Захарчанка і прэзідэнт «ЮКОСа» Сяргей Мураўленка. З беларускага боку ў абмеркаванні пытання прынялі ўдзел старшыня праўлення Нацбанка рэспублікі Пётр Пракаповіч, намеснік прэм'ер-міністра Валерый Кокараў, прэзідэнт канцэрна «Белнафтахім» Іван Бамбіза і кіраўнікі ВА «Нафтан» і Мазырскага НПЗ Канстанцін Часнавіцкі і Анатоль Купрыянаў. На сустрэчы прысутнічаў таксама Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Расійскай Федэрацыі ў Рэспубліцы Беларусь Валерый Лашчынін.

Перад нарадай прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка адказаў на пытанні журналістаў. Ён паведаміў, што мэтай дзелавой сустрэчы з'яўляецца выпрацоўка стратэгіі далейшых дзеянняў і пошук аптымальнай схемы разлікаў з кампаніямі, якія здольны забяспечыць нафтай не толькі Беларусь і Расію, але і многія заходнія рэгіёны. Акрамя таго, адзначыў кіраўнік беларускай дзяржавы, на парадку дня стаяць пытанні стварэння комплексаў паглыбленай перапрацоўкі нафты на нашых буйнейшых прадпрыемствах і іх рэфарміравання. У гэтай справе спяшацца нельга, падкрэсліў Аляксандр Лукашэнка. Аднак, паводле яго слоў, пры роўных умовах перавага будзе аддадзена расійскім кампаніям. «Мы людзі, якія размаўляюць на адной мове і добра разумеюць адзін аднаго без перакладчыкаў», — сказаў беларускі прэзідэнт.

Што датычыць забеспячэння рэспублікі нафтапрадуктамі, то тут праблем няма, але ёсць запазычанасць у памеры крыху больш чым 150 мільёнаў долараў. «Але гэта не таму, што мы не хочам разлічыцца, растлумачыў кіраўнік дзяржавы. — Такое становішча выклікана тым, што за пастаўляемы намі тавар у Расію мы не атрымліваем «жывых» грошай, якімі маглі б разлічыцца за энерганосьбіты. Калі б была аплата з боку Расіі за нашы тавары, не было б праблем і ва ўзаемаразліках». Паводле слоў Аляксандра Лукашэнкі, аптымальная схема ў гэтым пытанні будзе знойдзена, а Беларусь гатова ўзяць на сябе вялікую частку работы па яе рэалізацыі.

**Тэрэза ХАЮЦІНА, БЕЛТА.**

## ПАТРЫСІЯ КААС ПААБЯЦАЛА АЛЯКСАНДРУ ЛУКАШЭНКУ, ШТО Ў ХУТКІМ ЧАСЕ ЗНОЎ ПРЫЕДЗЕ Ў БЕЛАРУСЬ

**Многія вядомыя асобы, якія прыязджалі ў нашу краіну, станавіліся гасцямі прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі. Не была выключэннем і папулярная французская спявачка Патрысія Каас, якая гастраліруе ў Мінску. 16 красавіка кіраўнік дзяржавы прыняў яе ў сваёй рабочай рэзідэнцыі.**



Аб тым, што сустрэча адбудзецца, было аб'яўлена загадзя. І каб задаволіць павышаную цікавасць прэсы да гэтага факта, прэзідэнт патлумачыў, што ўпершыню ён сустрэўся з Патрысіяй Каас у мінулым годзе на святкаванні 850-годдзя расійскай сталіцы. Тады Аляксандр Лукашэнка па-добраму пазайздросціў масквічам, перад якімі Патрысія Каас часта выступае, і выказаў шкадаванне, што яна яшчэ ні разу не была ў Мінску. Спявачка паабяцала прыехаць у Беларусь, а кіраўнік дзяржавы — асабіста сустрэцца з ёй. І вось абое стрымалі сваё слова.

«Лічыце, што вы прыехалі да сваіх сяброў», — сказаў Аляксандр Лукашэнка, звяртаючыся да артысткі. Ён выказаў надзею, што Патрысіі Каас спадабаецца не толькі наша сталіца, але і беларуская публіка. У памяць аб сустрэчы кіраўнік дзяржавы падарыў чароўнай французжанцы шыкоўны букет белых руж і цудоўную інкруставаную шкатулку з дрэва.

Спявачка прызналася, што яна вельмі ўзрушаная, бо не прывыкла да прыёмаў на такім высокім узроўні. Як сказала Патрысія Каас карэспандэнту БЕЛТА, яна яшчэ не ўдастойвалася сустрэч з кіраўнікамі дзяржаў. Адзінае, што яна змагла ўспомніць, гэта мімалётная размова з прэзідэнтам Расіі Барысам Ельцыным і поціск яго рукі.

Патрысія Каас запрасіла Аляксандра Лукашэнку на свой канцэрт, які адбыўся ў гэты ж дзень. На жаль, кіраўнік дзяржавы не змог на ім прысутнічаць. Затое гледачы, якія прыйшлі ў канцэртную залу «Мінск», сталі сведкамі першакласнага шоу. У праграме «Тур дэ шарм» прагучалі як песні з апошняга альбома спявачкі пад назвай «У маёй плоці», так і яе славутыя хіты. Гледачы змаглі атрымаць асалоду не толькі ад цудоўных вакальных даных артысткі, але і ўбачыць цэлую калекцыю сцэнічных касцюмаў ад Пако Рабана і Іва Сен-Ларана — на працягу шоу Патрысія Каас мяняла ўборы некалькі разоў.

Тым жа, хто не змог трапіць на канцэрт французскай зоркі, заспакаеннем паслужыць тое, што яго фрагменты будуць паказаны па Беларускім тэлебачанні ў адным з бліжэйшых выпускаў праграмы «Музыка без межаў». Але самае галоўнае — у бліжэйшы час Патрысія Каас прыедзе ў Беларусь зноў. Яна паабяцала Аляксандру Лукашэнку прыняць удзел у адкрыцці сцэнічнай пляцоўкі Палаца рэспублікі, якое намечана на канец гэтага года.

**Эдуард ПІВАВАР, БЕЛТА.**

*Інтэрв'ю з Патрысіяй Каас на 2-й стар.*

## А ТЫ ПАДАЎ ДЭКЛАРАЦЫЮ?

### *Дэклараванне даходаў: тое, аб чым так доўга гаварылі, адбылося*

**15 красавіка скончыўся апошні тэрмін прадстаўлення фізічнымі асобамі дэкларацый аб даходах, устаноўлены Законам Рэспублікі Беларусь «Аб падаходным падатку з грамадзян». Як вядома, ён быў падоўжаны да пазначанай даты Дэкрэтам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь № 2 ад 6 сакавіка 1998 года «Аб мерах па ўрэгуляванню пытанняў, звязаных з вылічэннем падаходнага падатку з фізічных асоб, зыходзячы з іх сукупнага гадавога даходу».**

Закон Рэспублікі Беларусь «Аб падаходным падатку з грамадзян» прадугледжвае штогадовае дэклараванне асобных відаў даходаў грамадзян. Сёлета дэкларацыі абавязаны былі прадаставіць фізічныя асобы, якія атрымалі ў 1997 годзе наступныя віды даходаў:

— даходы ад выканання дагавораў падраду і дагавораў грамадзянска-прававога характару, якія носяць сістэматычны характар (артыкул 10, глава IV Закона). Для мэтаў падаткаабкладання да работ, якія ажыццяўляюцца на аснове дагавораў падраду і іншых дагавораў грамадзянска-прававога характару, што носяць сістэматычны характар, належаць работы працягласцю больш двух месяцаў у каляндарным годзе;

— аўтарскія ўзнагароджанні (артыкул 11, глава V Закона);

— даходы ад прадпрымальніцкай дзейнасці (прадпрымальнікам, якія плацілі фіксаваную стаўку падатку пераразлік не праводзіцца);

— іншыя даходы, не пералічаныя ў артыкулах 7, 9, 10, 11 і 13 Закона (артыкул 13, глава IV Закона). Да іншых даходаў, у прыватнасці, належаць даходы па каштоўных паперах і аперацыях з каштоўнымі паперамі, даходы, якія атрыманы пры размеркаванні статутнага фонду ў сувязі з выбыццём грамадзян з саставу заснавальнікаў ці пераўступкі іншай асобе; даходы ад здачы ў наём ці арэнду рухомай ці нерухомай маёмасці; даходы, атрымліваемыя ў выніку наследавання, акрамя даходаў, атрымліваемых наследнікамі па завяшчанню, наследнікамі першай і другой чаргі па закону; сумы, атрымліваемыя па рашэнню суда ў кампенсацыю маральнага ўрону; даходы ад рэалізацыі прадукцыі нехарчовага прызначэння (насенне, кветкі, жэньшэнь, саджанцы і г.д.).

Дэкларацыі аб даходах, атрыманых грамадзянамі ў 1997 годзе, за выкананне работ на падставе дагавораў грамадзянскага прававога характару і сум аўтарскіх узнагарод не прадстаўляюцца, калі такія даходы атрыманы ад аднаго суб'екта гаспадарання ці памер такіх даходаў не перавысіў 19 мільёнаў 400 тысяч рублёў (г. зн. памер даходу, да якога прымяняецца мінімальная стаўка падатку — 9 працэнтаў).

Такім чынам, нават па самому пераліку катэгорый асоб, што ўсё ж такі павінны прадставіць дэкларацыю аб даходах у 1997 годзе, можна меркаваць, што такіх «шчаслівўцаў» будзе значна менш, чым чакалася напачатку. Нагадаем: тады называлася лічба ў 300 тысяч чалавек, якія абавязкова павінны былі дэклараваць свае даходы. Колькі грамадзян вымушаны будуць прайсці гэтую працэдуру зараз, у Дзяржаўным падатковым камітэце назваць не здолелі, але відавочна, што лічба будзе больш «сціплай». Як можна зразумець, з пераліку катэгорый асоб, якія павінны прадставіць дэкларацыю за мінулы год, «выпалі» настаўнікі, урачы, журналісты. Словам, тыя, хто не шкадуючы ні ўласнага часу, ні здароўя, вымушаны працаваць у некалькіх месцах адразу, каб зарабляць на жыццё больш-менш прыстойныя сумы. Напэўна, толькі ў адзінак з іх памер даходаў «злева» ў сукупнасці перавысіць вызначаныя ў якасці «мяжы» 19 млн. 400 тысяч рублёў, і яны абавязаны будуць прадставіць дэкларацыю ўжо сёлета. Астатніх гэтая працэдура чакае, напэўна, у наступным годзе.

**(Заканчэнне на 2-й стар.)**

## ДВА МІЛЬЯРДЫ ДЛЯ ПРАЙДЗІСВЕТА

Следчым падраздзяленнем Цэнтральнага РАУС Гомеля ўзбуджана крымінальная справа супраць мясцовага жыхара. Аказваецца, яму ўдалося «раскруціць» гомельскую банкаўскую ўстанову на буйную суму грошай. Устаноўлена дакладна, што грошы махляр атрымаў па падробленых дакументах. Прадставіўшы апошнія ў банк, ён дабіўся крэдыту ў два мільярды рублёў. Колькі паспеў патраціць прайдзісвет, — аб гэтым не паведамляецца.

А вось у Мінску супрацоўнікамі МУС выяўлены інтэрнацыянальны квартэт, члены якога літаральна атакавалі «просьбамі» дырэктара аднаго з мінскіх адкрытых акцыянерных таварыстваў. Затрыманы менеджэр ААТ, рабочы аднаго з ЗАТ і два жыхары Малдовы, якія вымагалі ў кіраўніка 21 тысячу долараў. Як высветлілася ў ходзе следства, грошы злачынцы патрабавалі за вяртанне дырэктару ААТ яго аўтамашыны «Лянча».

**Ігар ГРЫШЫН.**

### КУРСЫ АБМЕНУ НАЯЎНЫХ ВАЛЮТ У КАМЕРЦЫЙНЫХ БАНКАХ І АФІЦЫЙНЫ КУРС, УСТАНОЎЛЕНЫ НАЦЫЯНАЛЬНЫМ БАНКАМ НА 16 КРАСАВІКА 1998 г. (па стану на 15.00)

| Назва банка | USD | | DM | | RUR | | Тэлефон для даведак |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Купля | Продаж | Купля | Продаж | Купля | Продаж | |
| Мінск (0-17) | | | | | | | |
| Белпромстройбанк | 45000 | 46000 | 24500 | 25200 | 7000 | 7500 | 233-2110 |
| Мінсккомплексбанк | 45500 | 46000 | 25200 | 25500 | 7400 | 7480 | 228-2047 |
| Пріорбанк | 45000 | 46000 | 24600 | 25500 | 7300 | 7400 | 245-5721 |
| Нацыянальны банк РБ (курс для безнаяўных разлікаў) | 34330.00 | | 19000.44 | | 5590.00 | | Курс на 17.04.1998 |
| Цэнтрабанк Расіі | 6.1280 | | 3.3954 | | | | |

*На працягу дня ўстаноўленыя курсы могуць мяняцца, курсы галаўнога ўпраўлення банка могуць неістотна адрозніваца ад курсаў, устаноўленых у абменных пунктах. Інфармацыя атрымана ад галаўных упраўленняў негандлёвых аперацый адпаведных банкаў.*

**Агенцтва ГРАЎЦОВА.**

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Рынкавы намінальны курс (міжбанкаўскі рынак) | 68300 | 69800 | 37806 | 38657 | 11119 | 11365 | |
| Рэальна абгрунтаваны намінальны курс (прыблізна) | 51500 | 52000 | 29600 | 30000 | 10400 | 10800 | |

## ЕЎРАПЕЙСКІ САЮЗ ГАТОЎ АКАЗАЦЬ ПАДТРЫМКУ БЕЛАРУСІ Ў ПРАВЯДЗЕННІ РЭФОРМАЎ

«Развіццё дружалюбных адносінаў Беларусі з Еўрапейскім саюзам дапаможа ЕС аказаць падтрымку вашай краіне ў правядзенні рэформаў. Ва ўсякім разе, мы зробім усё, што ад нас залежыць, каб беларуская дзяржава стала працвітаючай». Аб гэтым заявіў кіраўнік прадстаўніцтва Еўрапейскай камісіі (ЕК) у нашай краіне Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Андрэ Ванэвербек, уручаючы 16 красавіка даверчыя граматы прэзідэнту Беларусі Аляксандру Лукашэнку.

Кіраўнік беларускай дзяржавы адзначыў, што такой заявы з боку ЕС у рэспубліцы чакалі даўно. Ён паабяцаў са свайго боку аказваць усякае садзейнічанне прадстаўнікам Еўрапейскай камісіі ў Беларусі, каб іх работа была плённай. Аляксандр Лукашэнка выказаў надзею, што з боку Еўрапейскай камісіі і краін Еўрапейскага саюза ў адносінах да беларускай дзяржавы будзе больш разумення і канструктывізму.

**БЕЛТА.**

## СЕНАТАРЫ ГАТОВЫ ДА ЎЗАЕМАДЗЕЯННЯ З МЯСЦОВЫМІ САВЕТАМІ

Удасканаленне беларускага заканадаўства было асноўнай тэмай выступлення кіраўніка Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Паўла Шыпука на сустрэчы са старшынямі абласных, раённых і гарадскіх Саветаў дэпутатаў, якая адбылася 16 красавіка ў Мінску.

Гаворачы аб дзейнасці Савета Рэспублікі, Павел Шыпук падкрэсліў, што законапраекты, якія паступаюць з Палаты прадстаўнікоў, транзітам праз Савет Рэспублікі не праходзяць. Як было, напрыклад, з даволі вядомым праектам Закона «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі». Цяпер, паводле яго слоў, такімі ж спрэчнымі дакументамі, на дапрацоўцы якіх настойваюць сенатары, з'яўляюцца праекты Кодэкса аб шлюбе і сям'і, а таксама Грамадзянскага кодэкса. Сур'ёзная работа вядзецца парламентам, Саветам Міністраў і Адміністрацыяй Прэзідэнта па ўдасканаленню Закона «Аб мясцовым кіраванні і самакіраванні».

Кіраўнік верхняй палаты парламента з задавальненнем адзначыў пленнае ўзаемадзеянне заканадаўцаў з Саветамі ўсіх узроўняў. У якасці прыкладу ён назваў праведзены ў Віцебскай вобласці семінар з удзелам членаў Савета Рэспублікі. Паводле слоў Паўла Шыпука, такія формы зносінаў павінны стаць рэгулярнымі, як і прысутнасць прадстаўнікоў парламента на сесіях мясцовых Саветаў.

**Людміла КЛАСКОЎСКАЯ, БЕЛТА.**

## ДЭКЛАРАВАННЕ ДАХОДАЎ: ТОЕ, АБ ЧЫМ ТАК ДОЎГА ГАВАРЫЛІ, АДБЫЛОСЯ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

Чаму «напэўна»? У Дзяржаўным падатковым камітэце пакуль не схільныя загадваць так далёка, матывуючы гэта тым, што «работа ў гэтым накірунку толькі вядзецца». Не здолеў карэспандэнт газеты знайсці там дакладныя адказы і на іншыя пытанні: ці будзе ў далейшым пры налічэнні падаткаў улічвацца мінімальны пражытачны мінімум (у грашовым выражэнні на кожнага члена сям'і), ці будуць прадастаўляцца, напрыклад, ільготы (як у Расіі) тым, хто будуе кватэру або дачу.

Дарэчы, ходзяць чуткі, што пасля аб'яўлення неабходнасці падачы дэкларацыі аб сукупным даходзе многія грамадзяне пачалі забіраць заявы на ўступленне ў жыллёвыя кааператывы...

Настаўнікі, урачы, якіх, як вядома, не хапае і якія працуюць нярэдка «за сябе і за таго хлопца», прыносілі карысць не толькі сабе. У пачатку лютага яны хапаліся за галаву: каб я больш пайшоў куды-небудзь падпрацоўваць? Ды я падаткаў потым заплачу больш, чым зараблю! Але пакуль дакладна невядома, як жа гэтая катэгорыя насельніцтва будзе плаціць падаткі за 1998 год.

Безумоўна, многае яшчэ будзе дапрацавана ў механізме прадстаўлення дэкларацый аб даходах і налічэння падаткаў у наступным годзе, аднак хацелася б, каб у адпаведных органах да гэтага таксама падышлі цывілізавана.

Што ж датычыць цяперашняй сітуацыі, як заўважылі ў Дзяржаўным падатковым камітэце, хто не паспеў прадставіць дэкларацыю (каму гэта трэба рабіць) да 15 красавіка, лепш, хаця і са спазненнем, але паспяшацца. Да парушальнікаў будуць прымацца адпаведныя меры пакарання, прадугледжаныя заканадаўствам.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

*Патрысія КААС:*

## «ПЕРШЫМ МАІМ ГАНАРАРАМ БЫЎ ПАКЕТ З ЦУКЕРКАМІ»



«У вас увасоблена прыгажосць і лепшыя якасці ўсіх жанчын свету» — такімі словамі сустрэў мэр Мінска Уладзімір Ярмошын французскую спявачку Патрысію Каас, якая прыбыла пазаўчора вечарам у беларускую сталіцу. Уладзімір Васільевіч падарыў Патрысіі элегантны саламяны капялюшык і сказаў, што ў ім смела можна выходзіць на сцэну і пакараць мільёны мужчынскіх сэрцаў.

Сотні прыхільнікаў з кветкамі сустракалі спявачку гадзінай раней у аэрапорце «Мінск-1». Увогуле, лёс Патрысіі Каас у многім нагадвае лёс Папялушкі з вядомай казкі. Фея таксама дакранулася да яе сваёй чароўнай палачкай, інакш як можна растлумачыць такі фенаменальны поспех дзяўчынкі са звычайнай рабочай сям'і (бацька працаваў на шахце, маці выхоўвала семярых дзяцей). І хоць яна ў тыя гады не мела магчымасці адпачываць у час канікулаў на моры, Патрысія не шкадуе, галоўнае, што ў сям'і заўсёды panавалі любоў і згода. Вось такое цяжкае і адначасова шчаслівае дзяцінства.

У аэрапорце мы паспелі задаць спявачцы некалькі пытанняў:

**— Патрысія, калі вы сталі спяваць?**

— Я спяваю з васьмі гадоў. Тады я часта выступала на народных гуляннях. А мой першы ганарар — пакет з цукеркамі. Калі я спявала на святах піва, людзі, вядома, прыходзілі не для таго, каб слухаць мяне, а каб выпіць і пагуляць. Было цяжка, але на гэтым вучылася, і сёння мне гэта вельмі дапамагае. Жаданне спяваць прыйшло само, ніхто мяне не прымушаў. Я паднялася на сцэну па ўласнай волі. Першы мой дыск быў запісаны ў 1984 годзе, ён называўся «Раўнівая». Але тут мяне чакала няўдача, дыск «праваліўся». Давялося пачынаць усё з нуля. У 1987 годзе я запісала «Мадэмуазель спявае блюз...» Тады я і стала вядомай.

**— Што вы лічыце галоўным у жыцці?**

— Уменне пераадольваць цяжкасці. Мяне выхоўвала ў асноўным мама, і яна заўсёды казала: «У жыцці трэба змагацца, мець моцную волю, характар». Я такой і вырасла.

**— Вы да гэтага часу не замужам...**

— Як і любая нармальная жанчына, я хачу мець сям'ю, дзяцей, у мяне ёсць каханы чалавек, ён жыве ў Парыжы. Мы знаёмыя ўжо 10 гадоў. Аднак пакуль я не планую заводзіць сям'ю.

**— Кажуць, вы сябруеце з Барысам Ельцыным?**

— Я нават не ведаю, ці з'яўляецца ён прыхільнікам маёй творчасці. Летась у Маскве мы сустрэліся з ім на хаду і толькі паціснулі адзін аднаму рукі.

... Пасля наведвання мэрыі Патрысія Каас пабывала ў дзіцячым музычным ліцэі, што знаходзіцца на плошчы Перамогі. Спявачка паслухала музычную праграму, падрыхтаваную выхаванцамі ліцэя.

У 21 гадзіну мадам Каас вячэрала ў рэстаране «Бергама», дзе рамантычную абстаноўку стварала «жывая» блюзавая музыка. П. Каас заказала сабе тушаную ялавічыну і агародніну. Седзячы за сталом са свечкамі, Патрысія вячэрала на працягу 2 гадзін, не адмаўляючы пры гэтым іншым наведвальнікам рэстарана ў раздачы аўтографаў і фатаграфаванні.

Пасля гэтага частку ночы спявачка правяла ў Мінскім клубе «Юла», дзе адпачывала разам з моладдзю, удзельнічала ў розыгрышах і ўручэнні ўзнагарод пераможцам віктарын.

Учора вечарам у канцэртнай зале «Мінск» адбыўся канцэрт Патрысіі Каас у рамках праграмы «Тур дэ шарм», з якой спявачка гастралюе па краінах Еўропы.

**Вольга РАМАНЮК.**

### ПАВЕДАМЛЕННЕ

**Аб індэксе спажывецкіх цэн за сакавік 1998 года**

Міністэрства статыстыкі і аналізу паведамляе, што за сакавік 1998 года індэкс спажывецкіх цэн у параўнанні з лютым 1998 года склаў 103,3 працэнта, са студзенем 1998 года — 106,5 працэнта, са снежнем 1997 года — 110,6 працэнта.

# РОЗГАЛАС

*ПАРЛАМЕНЦКІ ДЗЁННІК*

## ЯКАЯ Ў НАС ЦЯПЕР ПРАВАСВЯДОМАСЦЬ?

**Такое пытанне ўзнікла ўчора ў Савеце Рэспублікі**

16 красавіка была прадоўжана сесія Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь. Ратыфікаваўшы некалькі міждзяржаўных пагадненняў, парламентарыі сутыкнуліся на двух законапраектах: «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Крымінальна-працэсуальны кодэкс Рэспублікі Беларусь» і «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Грамадзянскі працэсуальны кодэкс Рэспублікі Беларусь». Па абодвум дакладваў старшыня пастаяннай камісіі Савета Рэспублікі па заканадаўству і дзяржаўнаму будаўніцтву У. Каравай. І ацэнка абодвух была негатыўнай — ён прапанаваў адхіліць гэтыя законапраекты з-за іх істотных хібаў. Прадстаўнікі распрацоўшчыкаў — першы намеснік міністра юстыцыі П. Міклашэвіч і супрацоўніца дзяржаўнаправавога ўпраўлення Адміністрацыі Прэзідэнта І. Сідарчук — адстойвалі гэтыя праекты, даказваючы, што заўвагі носяць рэдакцыйны і непрынцыповы характар. Аднак ні адзін з іх усё ж адстаяць не ўдалося.

Дапаўненні ў Грамадзянскі працэсуальны кодэкс былі адхілены большасцю галасоў членаў Савета Рэспублікі. У. Каравай налічыў шэсць істотных недахопаў законапраекта, якія перш за ўсё датычыліся недакладнага размежавання паўнамоцтваў і падведамаснасці агульных і гаспадарчых судоў у краіне. Былі прэтэнзіі і чыста ідэалагічнага парадку, у прыватнасці У. Каравай вельмі здзівіўся, што распрацоўшчыкі пакінулі без змяненняў тое палажэнне кодэкса, у якім зазначаецца, што «пры ацэнцы доказаў суд кіруецца законам і сацыялістычнай правасвядомасцю».

— Распрацоўшчыкам трэба пераходзіць на новую тэрміналогію. Іначай якая ў нас цяпер будзе правасвядомасць?— зазначыў У. Каравай.

Змяненні ў Крымінальна-працэсуальны кодэкс выклікалі менш нараканняў парламентарыяў, аднак некаторыя з іх былі таксама істотнымі. Камісія па заканадаўству і дзяржаўнаму будаўніцтву палічыла не адпавядаючым міжнародным прававым нормам змяненне існаваўшай нормы аб тым, што абвінавачваемы мае права на судовую праверку як законнасці, так і абгрунтаванасці ўтрымання яго пад вартай. У новым варыянце знікала палажэнне аб «абгрунтаванасці». Аднак распрацоўшчыкі даказвалі, што гэтае палажэнне ўключаецца ў паняцце «законнасці». Апрача таго У. Каравай раскрытыкаваў норму, якая дае права абскарджваць рашэнні не толькі пракурорам, але і іх намеснікам. І. Сідарчук лічыць, што гэта патрэбная норма, што яна паскорыць працэсы. Былі і іншыя супярэчнасці. У выніку спрэчкі было прынята кампраміснае рашэнне не спяшацца і адкласці разгляд гэтага пытання на сённяшні дзень.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

## ДАЦЭНТ БДУ АЛЕСЬ БЕЛЬСКІ АДНАЧАСОВА З ПРЫЁМАМ У САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ АБАРАНІЎ ДОКТАРСКУЮ ДЫСЕРТАЦЫЮ

14 красавіка 35-гадовы дацэнт кафедры беларускай літаратуры XX стагоддзя Беларускага дзяржаўнага універсітэта Алесь Бельскі абараніў дысертацыю доктара філалагічных навук.

Як паведамілі БелаПАН у дэканаце філалагічнага факультэта БДУ, дысертацыя на тэму «Пейзаж у беларускай паэзіі (эвалюцыя, паэтыка, сістэма вобразаў) «была так паспяхова абаронена, а аўтарытэт маладога доктара настолькі высокі», што ў гэты ж дзень ён быў абраны вучоным сакратаром Рэспубліканскага спецыялізаванага савета па абароне доктарскіх дысертацый у галіне літаратуры.

Аднačасова з гэтым А.Бельскі быў прыняты ў Саюз пісьменнікаў Беларусі. Літаратурны кансультант гэтай арганізацыі Генадзь Дзмітрыеў адзначыў не толькі высокі ўзровень мастацкай прозы Бельскага, але таксама сур'ёзныя крытычныя і літаратуразнаўчыя працы, апублікаваныя ў часопісах «Полымя» і «Маладосць».

Разам з Алесем Бельскім прэзідыум праўлення Саюза пісьменнікаў прыняў у члены СП яшчэ 13 чалавек, сярод якіх празаік Ягор Конеў, паэтэсы Вольга Угрыновіч і Любоў Шэлег, крытык і літаратуразнаўца Валянціна Локун, мастацтвазнаўцы і краязнаўцы Алесь Белы і Алесь Карлюкевіч, дзіцячы пісьменнік Павел Саковіч.

Па словах Г. Дзмітрыева, новыя члены СП былі прыняты ў Саюз амаль аднагалосна.

**Марат ГАРАВЫ, БелаПАН.**

*Звяздоўцы горача віншуюць свайго калегу Алеся Карлюкевіча са знамянальнай падзеяй.*

## МЭТАЗГОДНАСЦЬ ПРАВЯДЗЕННЯ ПРЫВАТЫЗАЦЫІ ВЫЗНАЧАНА КАНЧАТКОВА

**У ходзе рэфарміравання эканомікі за 7 апошніх гадоў у Беларусі было прыватызавана 756 прадпрыемстваў рэспубліканскай і 1994 прадпрыемствы камунальнай уласнасці. Аб тым, на якіх умовах будзе працягвацца раздзяржаўленне і прыватызацыя ў нашай краіне, а таксама аб новых накірунках гэтага працэсу, расказвае ў гутарцы з карэспандэнтам «Звязды» першы намеснік міністра па кіраванню дзяржмаёмасцю і прыватызацыі Аляксандр БЛІНКОЎСКІ.**

— Заўважу, што дэкрэт аб раздзяржаўленні і прыватызацыі дзяржаўнай уласнасці быў падпісаны прэзідэнтам краіны 20 сакавіка ў вельмі складаны для рэспублікі час, калі рэзка ўпаў курс беларускага рубля. Тое, што менавіта ў гэты час з'явіўся дэкрэт аб прыватызацыі, сведчыць аб тым, што рэформы ў нашай эканоміцы будуць працягвацца. Мы яшчэ раз пацвердзілі напрамак свайго курсу ў накірунку стварэння шматукладнай эканомікі. Гэта азначае, што ў нашай краіне будзе існаваць не толькі дзяржаўны сектар, а таксама і розныя суб'екты недзяржаўнай формы гаспадарання. Гэтага дэкрэта мы доўга чакалі. Дэкрэт значна спрашчае нам работу, бо зараз мы ведаем, што ўсе напрамкі, якія выказаны ў дэкрэце поўнасцю падтрымліваюцца прэзідэнтам краіны. Гэта значыць, што рэгламент і дзеянні, якія прадугледжаны ў дэкрэце, — гэта і ёсць галоўная стратэгія развіцця дзяржавы.

**— Якія прынцыпова новыя змяненні адбудуцца ў прыватызацыі пасля выхаду дэкрэта?**

— Яшчэ ў 1996 годзе мы адпрацавалі новыя падыходы да прыватызацыі. Гэта датычыцца прыцягнення інвестараў у працэс раздзяржаўлення і прыватызацыі. Дзякуючы дэкрэту ў нас сёння ёсць рэальны механізм постпрыватызацыйнай адаптацыі прадпрыемстваў. Акцыянернае таварыства мае магчымасць прыцягваць інвестараў, прапануючы ім другую, ці нават трэцюю эмісію акцый свайго прадпрыемства. У іншых краінах у гэты перыяд постпрыватызацыйнай адаптацыі дзяржавай выкарыстоўваюцца і іншыя механізмы, напрыклад, сродкі ад прыватызацыі аддаюцца менавіта на санацыю, рэструктарызацыю прыватызаванага прадпрыемства. Наша краіна, на жаль, не мае магчымасці так рабіць, бо ўсе грошы ад прыватызацыі ідуць у бюджэт.

**— Якія льготы прадугледжаны для інвестараў, каб яны сапраўды пачалі прымаць удзел у прыватызацыі?**

— Ільготы для ўсіх інвестараў аднолькавыя, нягледзячы на тое, якім шляхам яны да нас прыйшлі, — ці праз стварэнне сумесных прадпрыемстваў ці праз прыватызацыю.

**— Чым мы зараз можам зацікавіць інвестараў?**

— Адна з галоўных мэтаў, якую мы мелі на ўвазе пры распрацоўцы дэкрэта, звязана з тым, каб устанавіць у рэспубліцы больш доўгатэрміновыя «правілы гульні» ў галіне прыватызацыі. Амаль заўсёды любы інвестар хоча быць упэўнены ў тым, што на працягу даволі вялікага прамежку часу ён будзе працаваць у аднолькавых прававых умовах. Калі пад дэкрэт будзе падкарэкціравана заканадаўства, то мы можам сказаць, што ў нас ёсць асноўныя «правілы гульні» ў прыватызацыі, якія разлічаны на доўгую перспектыву. Раней «правілы гульні» мяняліся кожны год, разам з праграмай прыватызацыі.

**— Як будзе вырашацца лёс дрэнна працуючых прадпрыемстваў?**

— Для добра працуючага прадпрыемства згода працоўнага калектыву на правядзенне прыватызацыі — норма абавязковая. Раней такога ў заканадаўстве не было. Любое прадпрыемства можна было прымусіць да прыватызацыі. Цяпер не. З другога боку, прадпрыемства, якое працуе няўстойліва, патрабуе фінансавага аздараўлення, бо, шчыра кажучы, стаіць на мяжы банкруцтва. Такія гаспадаркі могуць прыватызавацца нават без згоды працоўнага калектыву. І гэта справядліва. Калі працоўныя калектывы не хочуць несці адказнасць за работу свайго прадпрыемства, тады трэба знайсці добрага гаспадара, які будзе выводзіць прадпрыемства з тупіка. Галіновыя міністэрствы павінны пачаць сапраўдную работу са сваімі «хворымі» прадпрыемствамі. Механізм фінансавага аздараўлення ёсць і яго трэба выкарыстоўваць. І Савет Міністраў, і кіраўнік дзяржавы цяпер маюць магчымасць запытаць у кіраўніка той ці іншай галіны, чаму яна працуе дрэнна, і нічога ў гэтым напрамку не робіцца.

**— Як закране дэкрэт аб прыватызацыі інтарэсы грамадзян краіны?**

— Асноўны момант, які будзе цікавым для нашага насельніцтва, гэта мараторый на продаж акцый, якія атрыманы ў перыяд бязвыплатнай прыватызацыі. Не сакрэт, што сёння акцыі і чэкі скупляюцца па цане, якая намнога ніжэй іх рэальнага кошту. Гэта адбываецца таму, што большасць насельніцтва не арыентуецца ў гэтай сферы. Мала хто ведае, што такое каштоўная папера, як яе можна выкарыстоўваць і кіраваць ёю. Акрамя таго, сёння акцыянерныя таварыствы працуюць не вельмі добра і таму не могуць плаціць па акцыях добрыя дывідэнды. У выніку вельмі часта і чэкі, і акцыі скупляліся ў насельніцтва па мізэрнай цане.

Таму было вырашана ў перыяд бязвыплатнай прыватызацыі акцыі не прадаваць. Калі грамадзянін атрымаў акцыі, няхай яны ў яго і будуць. Мы спадзяемся, што ў хуткім часе запрацуе другасны рынак каштоўных папер. Тады будуць праводзіцца цывілізаваныя каціроўкі акцый і грамадзянін будзе рэальна бачыць, колькі каштуе яго акцыя.

З другога боку мы добра разумеем, што такім чынам самі тармозім развіццё рынку каштоўных папер.

**— Як вы лічыце, ці не адштурхне ўвядзенне «залатой акцыі» дзяржавы патэнцыяльных інвестараў ад многіх айчынных прадпрыемстваў?**

— Норма «залатой акцыі» — гэта права вета. Маючы на руках «залатую акцыю», дзяржава мае магчымасць не прымаць нейкае рашэнне па прадпрыемству, а блакіраваць яго. Блакіраваць менавіта тыя рашэнні, якія, па меркаванню дзяржавы, наносяць урон краіне і акцыянерам. З аднаго боку, ўвядзенне «залатой» акцыі вырашыць шэраг праблем па рэгуляванню эканамічных параметраў развіцця грамадства.

З другога боку, увод «залатой акцыі» ў акцыянернае таварыства, якое мае патрэбу ў інвестыцыях, стварае вельмі велізарныя праблемы па адшуканню інвестара.

З нашага пункту гледжання, для кожнага канкрэтнага прадпрыемства трэба вызначыцца, наколькі важнае для гэтай гаспадаркі прамое дзяржаўнае рэгуляванне і наколькі важнае гэта прадпрыемства для той ці іншай галіны. «Залатая акцыя», як механізм рэгулявання існаваць патрэбна, але толькі там, дзе трэба непасрэднае прамое рэгуляванне дзяржавы. Ва ўсіх астатніх выпадках «залатая акцыя» будзе прыносіць адмоўныя вынікі. Прымяненне права «залатой акцыі» павінна быць хутчэй за ўсё выключэннем, чым правілам.

**Сяргей КУРКАЧ.**



**Кіраўніцтва і Сакратарыят Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь выказваюць глыбокае спачуванне кіраўніку групы памочнікаў — першаму памочніку Старшыні Палаты прадстаўнікоў Пятру Барысавічу Свістунову ў сувязі з напаткаўшым яго горам — смерцю брата МІКАЛАЯ.**

## Край, дзе любяць беларусаў

**18 красавіка ў Беларусі пачнуцца Дні культуры Краснадарскага края Расійскай Федэрацыі.**

Дэлегацыя беларускіх артыстаў ужо пабывала на Кубані і засталася ўражаная прыёмам. Бо людзі там жывуць шчырыя і вельмі песенныя, трэба быць вялікімі прафесіяналамі, каб ім спадабацца. Аказалася, што і песні нашы беларускія там помняць, і імёны вядомых спевакоў і музыкантаў не забыліся. Ды і ўвогуле — Кубань амаль што шматнацыянальная маленькая дзяржава, дзе жывуць у тым ліку і 40 тысяч беларусаў.

Беларусь таксама шматнацыянальная краіна, дзе, па некаторых звестках, знайшлося месца і казакам. Так гэта ці не — навошта спрачацца, бо ўсё роўна ў красавіку нас незваротна чакае своеасаблівы налёт казакоў. Будзе і Кубанскі казачы хор, і ансамбль казачай песні «Кубанцы», ізноўтакі ансамбль казачай песні «Крыніца». Акрамя таго — выставы, сустрэчы, размовы паміж прадстаўнікамі Кубані і тымі, каго цікавіць гэты багаты край Расійскай Федэрацыі.

Але кіраўнікі Краснадарскага края, дарэчы, ганарацца не толькі гаспадарчымі набыткамі, а яшчэ і тым, што захавалі інфраструктуру ўстаноў культуры. Напрыклад, Кубань займае 3-е месца ў Расіі па колькасці канцэртных арганізацый і 2-е — па колькасці філарманічных калектываў. Таму на Дні культуры ў Беларусь прыедзе даволі прадстаўнічая дэлегацыя на чале з кіраўніком адміністрацыі Краснадарскага края Мікалаем Кандрацэнкам і яго намеснікам, атаманам Усекубанскага казачага войска Уладзімірам Громавым. Госці будуць прыняты на ўрадавым узроўні.

**Ларыса ЦІМОШЫК.**

МОДА



## СУЧАСНЫЯ МАТРОШКІ З КАРОТКАЙ ПРЫЧОСКАЙ

**Французы раяць памыць галаву, калі ў вас дрэнны настрой. Калі пасля гэтай меры змены ў настроі не адбудуцца, варта прыслухацца да другой парады: нанесці візіт цырульніку.**

Той, верагодна, і не возьмецца за нажніцы. Не з-за затоенага ў вашых вачах жаху перад магчымым нечаканым вынікам. Тэхніка сёння іншая: ручная работа. Галоўнае — прыгожа прычасаць валасы. Акцэнт робіцца на ўкладку. Але не колны начасаў, што блішчаць ад лаку, а мяккія натуральныя кудзеры павінны вянчаць вашу галаву. Як казала гераіня Алісы Фрэйндліх у «Службовым рамане», — «жывенька гэтак».

У роўнай ступені гэта датычыцца і кароценькіх стрыжак «пад хлопчыка», і жаноцкіх прычосак з валасоў да плячэй. Апошнія, дарэчы, вельмі папулярныя і адсунулі на другі план так упадабанае нашымі жанчынамі «карэ». Зрэшты, абысці ўвагай прычоску ўсіх часоў і народаў майстры нажніц і фена не могуць. Таму прапануюць уладальніцам вобраза дзелавой жанчыны не баяцца адрэзаць чубок ледзь не да самых каранёў валасоў. Хіба ж не жывенька? Доўгі чубок робіцца асіметрычным.

Штучныя колеры баклажан і гранат на сённяшні дзень надзейна забытыя, а жыццёвую моц і бляск валасоў падкрэсліваюць фарбамі залацістай гамы — ад русага да каштанавага. Нямодна сёння быць і радыкальнай бландзінкай з нежывымі ад непамернай дозы перакісу валасамі. Калі змена колеру для вас раўнацэнная міні-землятрусу, то спецыялісты раяць сама меней зрабіць больш густым колер валасоў ля каранёў.

Натуральнасць прычоскі таксама падкрэсліваецца меліраваннем настолькі якасна і акуратна выкананым, што аб яго наяўнасці сведчаць толькі блікі.

Вядома, натуральнасць — дэвіз сучаснага макіяжу. Таму і колеравая гама ценяў — карамельная, светла-карычневая. Нанесеныя алоўкамі лініі растушоўваюцца. У афарбоўцы веек жанчынам давядзецца асцябліва папрактыкавацца. Цяпер туш наносіцца толькі на сярэднюю іх частку. Візажысты сцвярджаюць, што такая тэхніка дазваляе дасягнуць эфекта «вока матрошкі». Уваходжанне ў вобраз гэтай нацыянальнай рускай гераіні завяршаецца нанясеннем ружовых румян у выглядзе пятакоў. Памада падбіраецца ў тон гэтых кружкоў на скулах, а значыць карычневая, бардовая, чырвоная памада пакуль што аддаюцца забыццю.

Затое ў выбары лаку для пазногцяў — ніякага дыктату. Шукаць лак у тон памады сёння лічыцца ледзь не прымхамі. Таму пафарбуеце пазногці хоць у чорны, хоць у зялёны, хоць у жоўты колер — аднолькава модна. Пазногці на нагах таксама могуць быць самага нечаканага колеру.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**
**Фота Віталя АМІНАВА.**

## ІНФАРМ-КАКТЭЙЛЬ

Кіраўнік ізраільскага кабінета Біньямін Нетаньяху вымушаны ўнесці карэктывы ў парадак прыёму знакамітых наведвальнікаў, якім ён нязменна прапаноўваў 30-доларавыя цыгары. На гэту дэталь рытуалу звярнула ўвагу прэса, падлічыўшы, што штомесячна канцылярыя прэм'ер-міністра траціць на цыгары 3200 долараў, а за год тытунёвыя вырабы абыходзяцца падаткаплацельшчыкам у 40 тысяч долараў. Сумы, якія затрачаны на пакупку цыгар, праходзяць па графе прадстаўнічых расходаў. Цяпер гэтыя грошы пойдуць на асвяжальныя напіткі.

**Рэйтэр**

*Усходнегерманская малаліт-ражка «Трабант», непрэзентабельная знешне і цiхаходная, адрадзілася, тым не менш, трываласцю кузава. Адпрацаваўшы сваё, такая машына яшчэ можа спатрэбіцца ў гаспадарцы. Пенсіянер з пасёлка Найру непадалёку ад Берліна паставіў корпус «Трабанта» на 10-метровую стальную мачту і прапанаваў машыну ў якасці памосту для гнездавання буслоў. Буслы не адмовіліся.*

**Асашыэйтэд Прэс**

Як ні шкада, але на Марсе жыцця не было. Да такой песімістычнай высновы прыйшлі нядаўна спецыялісты з амерыканскага НАСА. Апошнія іх даследаванні паказалі, што так званы «марсіянскі твар», які многія вучоныя прымалі за збудаванне старажытнай цывілізацыі, з'яўляецца ўсяго толькі звычайным горным масівам прыроднага паходжання. Новыя фотаздымкі, зробленыя амерыканскім спадарожнікам-даследчыкам Марса, астудзілі пыл нават аптымістаў.

**ІТАР—ТАСС**

### РАСІЯ ПАВЫШАЕ МІНІМАЛЬНЫЯ ЦЭНЫ НА ЛІКЁРА-ГАРЭЛАЧНЫЯ ВЫРАБЫ

З 20 красавіка ў Расіі ў адпаведнасці з рашэннем міністэрства эканомікі РФ на 10,5—10,7 працэнта павышаюцца мінімальныя цэны на алкагольную прадукцыю моцнасцю вышэй за 28 градусаў.

## «Хілары працягвае зарабляць больш за прэзідэнта Клінтана»

**«Хілары Клінтан у мінулым годзе зноў зарабіла больш грошай, чым яе муж. Як і ў 1996 годзе, яе даходы ў сямейным бюджэце перавысілі заробак прэзідэнта.**

І ўсё гэта дзякуючы кнізе (аб выхаванні дзяцей. — **Заўвага рэд.**) «It takes a village». Даходы сям'і Клінтан, якая жыве па адрасу: Вашынгтон, праспект Пенсільвання, 1600, склалі ў 1997 годзе 569.511 долараў. З іх прыйдзецца заплаціць падаткаў 91.964 долары.

Клінтаны, як і мільёны іншых амерыканцаў, павінны былі прадставіць дэкларацыю аб даходах да 15 красавіка. Згодна з дакументамі, пададзенымі ў міністэрства фінансаў, першая лэдзі зарабіла 281.896 долараў. Прэзідэнт са свайго боку атрымаў 200 тыс. у выглядзе зарплаты і 76 долараў — за ігру на саксафоне ў адной тэлевізійнай праграме ў час перадвыбарнай кампаніі 1992 года, але да гэтага часу апошняя сума не атрымана.

Віцэ-прэзідэнт ЗША Ал Гор і яго жонка Тыпер у гэтым годзе не былі такімі шчодрымі, як Клінтаны. Яны ахвяравалі толькі 353 долары. Іх даходы склалі 197.729 долараў, і ім прыйшлося заплаціць 47 662 долары падаткаў. Зарплата віцэ-прэзідэнта — 197.729 долараў у год.

Упершыню 18-гадовая дачка прэзідэнта Чэлсі Клінтан таксама заплаціла падаткі. Яе даходы ў адным інвестыцыйным фондзе, дзе яна захоўвае свае зберажэнні, склалі 8447 долараў і ёй прыйшлося заплаціць міністэрству фінансаў 1106 долараў».

**«Вангуардзія»** *(Іспанія).*

## «Уол-стрыт вітае новыя пілюлі ад імпатэнцыі»

**«Новае лякарства кампаніі «Пфайзер» «Віагра» зрабіла гэту нью-йоркскую фармацэўтычную фірму любіміцай Уол-стрыта. Прызначаная для лячэння імпатэнцыі, «Віагра» можа прынесці мільярды долараў, лічаць аналітыкі.**

У вялікай ступені з-за гэтых чаканняў цана акцый «Пфайзер» з лета мінулага года падвоілася. Лякарства паступіць у продаж у сярэдзіне красавіка і будзе прызначана для 10 млн. амерыканскіх мужчын, якія адчуваюць рэгулярныя цяжкасці з эрэкцыяй.

Імпатэнцыю раней звязвалі са станам трывогі, з псіхічнымі цяжкасцямі. Цяпер урачы лічаць, што ў аснове ў большасці выпадкаў ляжаць фізічныя прычыны, такія, як былыя спартыўныя траўмы, кардыяваскулярныя захворванні. Таму цяпер імпатэнцыю часцей называюць эрэктальнай дысфункцыяй (ЭД).

Лячэнне ЭД уяўляе сабой бізнес, які ацэньваецца ў 800 млн. дол., аднак яно часам аказваецца неэфектыўным. Барацьба з імпатэнцыяй вар'іруецца ад уколаў у пеніс за 15 дол. да пенісных імплантантаў за 20 тыс. дол. У адрозненне ад гэтага адна таблетка «Віагры» каштуе 9 дол., яе трэба прымаць за гадзіну да палавога акта. Аднак «Віагра» вырвалася наперад толькі ненадоўга. Прынамсі 8 вядучых фармацэўтычных кампаній вядуць распрацоўкі паляпшаючых эрэкцыю пілюль або крэмаў».

**«Ю. С. ньюс энд уорлд рыпарт»** *(ЗША).*

## Бронзавы прызёр Нагана Дзмітрый Дашчынскі будзе харчавацца гамбургерамі цэлых 36 тыдняў

15 красавіка Нацыянальны алімпійскі камітэт Рэспублікі Беларусь зноў «выходзіў у людзі», правёўшы ў афіцыйным прэс-цэнтры Макдональдса, што на праспекце Скарыны, сустрэчу з журналістамі. Апанентам прадстаўнікоў сродкаў масавай інфармацыі на гэты раз выступілі беларускія фрыстайлісты: бронзавы прызёр Нагана Дзмітрый Дашчынскі і адкрыццё спартыўнага года Аляксей Грышын. Дарэчы, апошняга еўрапейскі аргкамітэт у гэтай намінацыі ўзнагародзіў звышсучасным камп'ютэрам з сотавым тэлефонам «Nokia». Праўда, як прызнаўся лаўрэат, такая апаратура ў Беларусі не працуе, паколькі няма адпаведнай сістэмы прыёму. Аднак сурпацоўнікі рэстарана запэўнілі, што праз год яна ў рэспубліцы ўжо будзе, а таму не варта расстройвацца.

Са свайго боку яны для медалістаў зімовых гульняў паднеслі сюрпрыз: права на бясплатнае харчаванне раз у тыдзень да канца сёлетняга года. Дзмітрый Дашчынскі толькі развёў рукамі і ўсміхнуўся: не чакаў такой «халявы», аднак што зробіш — прыйдзецца 36 разоў задавальняцца гамбургерамі і фішбургерамі.

Нечаканасцю сустрэчы стала прысутнасць нарвежскай фрыстайлісткі Хільды Лід — бронзавай прызёркі Лілехамера і ўладальніцы ганаровага шостага месца ў Нагана. Як растлумачыў галоўны трэнер Беларусі па фрыстайлу Мікалай Казека, госця са Скандынавіі папрасілася ў Беларусь на месяц, каб патрэніравацца. І, мяркуючы па першых уражаннях, ёй тут спадабалася. Нарвежка шчыра прызналася, што ў нашай краіне вельмі прыветлівыя людзі і што яна ўбачыла тое, чаго чакала.

У заключэнне сустрэчы шэф місіі ў Нагана Яраслаў Барычка абмаляваў контуры летніх гульняў у Сіднеі-2000 і зімовых 2002 года ў Салт-Лейк Сіці, што ў ЗША.

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**





### СЁННЯ

**МЕСЯЦ**

**Апошняя квадра 19 красавіка**

***З 0.12 — 21-ыя месяцавыя суткі. З 16.06 Месяц у сузор'і Казярога.***

**ІМЯНІНЫ**

**Пр. ВЯЛІКАЯ ПЯТНІЦА. Іосіфа**

**К. Рудольфа, Роберта**

**НАДВОР'Е**

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, па паўночна-заходняй палавіне дажджы, магчымы навальніцы. Тэмпература паветра ў Віцебску — 8—10, Магілёве — 9—11, Гродне, Мінску — 10—12, Гомелі — 11—13, Брэсце — 12—14 градусаў цяпла.

У наступныя двое сутак: 18-га — па заходняй палавіне рэспублікі, 19-га — на большай частцы тэрыторыі дажджы, месцамі навальніцы. Тэмпература ўначы — 2—7, удзень — 8—13 градусаў вышэй нуля.




### ТРАГЕДЫЯ ЦІ ХОБІ?

Яны заўсёды ходзяць па інстанцыях разам. Адну жанчыну можна лёгка пакрыўдзіць і збіць з панталыку, а вось дзве асобы жаночага полу — гэта ўжо, пагадзіцеся, моц.

Гэтых дзвюх жанчын пенсійнага ўзросту добра ведаюць у Магілёве. Іх сустракаюць як людзей досыць знаёмых у прыёмных кіраўнікоў мясцовай «вертыкалі», судоў і пракуратуры. Але наўрад ці гаспадары высокіх кабінетаў рады іх бачыць, таму што гэтыя наведвальніцы адносяцца да самых складаных суразмоўцаў.

Яны — з катэгорыі «вечных скаржнікаў». Яны не абіваюць парогі як журботныя і бездапаможныя прасіцелькі, яны не плачуць і не падаюць духам, а займаюцца сваёй скаржніцкай справай з імпэтам і нават, скажам так, прафесійна ўжо шмат гадоў.

Як сказаў мне адзін чалавек, кіраўнік грамадскай арганізацыі, якая займаецца абаронай правоў чалавека і куды ў свой час звярталіся і гераіні гэтых нататкаў: маўляў, кожны чалавек мае права на прыемнасці, у кожнага ёсць, напрыклад, сваё хобі — маркі збіраць ці салату вырошчваць, а вось для гэтых жанчын улюбёная справа не што іншае, як скардзіцца ва ўсе інстанцыі...

Самі ж Зінаіда Батура і Валянціна Лаўрова лічаць, што іх у свой час бессаромна падманулі, што праўда на іх баку, што аднойчы яны даб'юцца перамогі і дакажуць усяму свету сваю праўду.

■

Я адразу сказала жанчынам, што я — не юрыст, не эксперт і не следчы. Мая журналісцкая адукацыя не дазваляе дакладна вызначыць, хто мае рацыю, а хто вінаваты ў гісторыях, з якімі Зінаіда Стэфанаўна і Валянціна Афанасьеўна звярнуліся ў нашу рэдакцыю. Шчыра кажучы, нават з іх лістамі, адзін з якіх быў абазваны «Скарга», а іншы — «Заява», мне было складана разабрацца. Вялізная колькасць юрыдычных тэрмінаў, нумароў усялякіх дакументаў, розных прозвішчаў і дат неверагодна заблытвалі сутнасць праблем. Не гаворачы ўжо пра тое, што апісваемыя ў лістах галоўныя падзеі адбываліся ў адным выпадку дваццаць гадоў таму, у іншым — дванаццаць.

Але самым дзіўным мне падалося спачатку амаль абсалютнае раўнадушша Зінаіды і Валянціны да таго, веру я ім ці не, падтрымліваю іх барацьбу за свае правы ці не. Праўда, у некаторых момантах мяне ўсё ж такі падазравалі ў «змове» з уплывовымі чыноўнікамі, якія перашкаджаюць, па словах жанчын, законнаму вырашэнню іх спраў. Але самае галоўнае, што ад мяне патрабавалі наведвальніцы, — НАПІСАЦЬ ХОЦЬ ШТО-НЕБУДЗЬ ПРА ІХ!

Як прыклад таго, што нічога страшнага ад гэтага не адбудзецца, мне быў прад'яўлены стос газет — мясцовых і рэспубліканскіх, якія ў розныя часы друкавалі артыкулы, прынамсі аб справе Зінаіды Батура. Што змянілася пасля выступленняў сродкаў масавай інфармацыі? «Нічога, — спакойна адказвае мне Зінаіда Стэфанаўна і ўпэўнена дадае, — павінна змяніцца...» Цяпер яе ўпэўненасць грунтуецца на новым прэзідэнцкім указе, згодна з якім на крытычныя артыкулы павінна быць адпаведнае рэагаванне. Перапіску па справах абедзвюх жанчын і суды, і пракуратура спынілі — час прайшоў, правільнасць рашэнняў пацверджана рознымі інстанцыямі, а вось калі я напішу пра іх зноў, дык усё пойдзе па новаму кругу. І хто ведае, спадзяюцца мае суразмоўніцы, можа, на гэты раз яно будзе выніковым?..

Карацей кажучы, мне не проста намякнулі, а прама сказалі: напісаць пра нас вы абавязаны, так што калі ласка! А, маўляў, калі не, дык можна і паскардзіцца — цяпер ужо на журналіста...

Абавязана я ці не, але кораткa пра сутнасць скаргаў гэтых жанчын я распавяду.

### «ЛЮДЗІ КАЖУЦЬ, ШТО Я ВЕДАЮ БОЛЬШ, ЧЫМ НАВАТ СУДДЗЯ...»

Вельмі верагодна, што гэтыя словы Валянціны Афанасьеўны Лаўровай недалёкія ад ісціны. 61 год споўніўся гэтай жанчыне, але дваццаць з іх яна прысвяціла, па яе словах, «барацьбе за справядлівасць». Яна мае сярэднюю адукацыю, да пенсіі працавала на заводзе майстрам вытворчага навучання, але зараз складае скаргі лепш за любога юрыста. За гады свайго шматгадовага «блукання па пакутах» Валянціна страціла сваю рэпутацыю ціхоні, жыццё вывучыла яе законам і цяпер яна актыўна дапамагае ўсім пакрыўджаным, але юрыдычна непісьменным людзям парадамі — як правільна па інстанцыях хадзіць...

Змагаецца Валянціна Афанасьеўна за 1/6 частку дома, прыкладна за дзесяць квадратных метраў плошчы, якой яна, дарэчы, зараз карыстаецца і адкуль ніхто яе не выганіць. «Абсурд!» — скажыце вы. Такой падалася спачатку гэта гісторыя і мне. Але справа ў тым, што домам, дзе зараз жыве адна скаржніца, валодалі некалькі адгалінаванняў сям'і Лаўровых. У 1978 годзе адбыўся нейкі суд, зусім на іншую «тэму», але судовай калегіі для нейкай праверкі былі прадстаўлены, па словах Валянціны Афанасьеўны, «няправільныя» дакументы, у выніку чаго афіцыйна бацька скаржніцы быццам бы страціў юрыдычныя правы на 1/6 частку дома. Цяпер жа, па інфармацыі заяўніцы, хоць фактычна яна і жыве на гэтых «адабраных» квадратных метрах, але ў спадчыну пакінуць іх нікому не можа — няма адпаведных дакументаў. Каму ў выніку перамогі Валянціна Афанасьеўна пакіне па завяшчанню сваю нерухомасць, яна яшчэ не вырашыла: магчыма — дзяржаве, верагодна — пляменніцы, але пакуль жывая, пакуль ходзяць ногі, будзе скардзіцца і дабівацца дакументаў да канца сваіх дзён. Так яна вырашыла!

Не апошнюю ролю ў гэтым прынцыповым рашэнні адыграў запавет бацькі, які памёр на руках дачкі Валянціны. Да апошняга моманту жыцця чалавеку не даваў спакою той факт, што яго падманулі і пазбавілі ўласнасці. Валянціна Афанасьеўна падзяляла погляд бацькі, і таму ягонае перадсмяротнае завяшчанне — «Валя, дамажыся справядлівасці, я цябе Богам заклінаю!» — успрыняла як дэвіз свайго далейшага жыцця.

— Вось так і хаджу дваццаць гадоў, бягуць дні, месяцы і гады... Гэта каласальная праца, і не ўсе мне вераць, што я на такое здатная. Але мне гэта патрэбна прынцыпова, таму што закон на сто працэнтаў — на маім баку. Усе мне гэта кажуць — я прайшла ўсіх юрыстаў і нават сем канстытуцыйных суддзяў наведала. Я даб'юся свайго!

### «НЯХАЙ МНЕ КАЖУЦЬ «НЕ» — Я АДНАЗНАЧНА КАЖУ «ТАК»...

Так вызначыла дэвіз сваёй кіпучай дзейнасці іншая скаржніца — Зінаіда Стэфанаўна Батура. Прама скажам, што, здаецца, ніякіх адносінаў да падзей, якія адбыліся дванаццаць гадоў таму ў адным з жыллёвых кааператываў Магілёва, яна не мае. Ну толькі як былая жонка галоўнага героя. Віктар Парфенавіч Батура больш як 15 гадоў жыў у сваёй кааператыўнай кватэры і ў 1986 годзе рашэннем раённага суда быў пазбаўлены яе па вядомаму «гарбачоўскаму» закону аб непрацоўных даходах, бо некалькі гадоў ён здаваў за грошы сваю плошчу нейкім сваякам. У кватэру Віктара Парфенавіча засялілася іншая сям'я, сам ён знайшоў прытулак у сваёй сваячкі, але апошнія чатыры гады ён, паралізаваны, знаходзіцца ў бальніцы прыгараднай вёскі Дашкаўка.

Зінаіда Стэфанаўна, былая жонка Віктара Парфенавіча, шмат гадоў яго не бачыла. Па яе асабістаму прызнанню, ніколі не наведвала хворага ў бальніцы і не збіраецца гэтага рабіць. Лёс гэтага чалавека, няхай і былога мужа, 60-гадовую Зінаіду Стэфанаўну не цікавіць увогуле. Але даверанасць на вядзенне ўсіх спраў Віктара Парфенавіча атрымала з задавальненнем і зараз актыўна займаецца адменай рашэння суда і вяртаннем адабранай калісьці на карысць дзяржавы кватэрай.

Чаму? Таму што частка гэтай кватэры павінна па спадчыне належыць сыну Зінаіды Стэфанаўны і Віктара Парфенавіча. Вярнуць кватэру былому мужу азначае для скаржніцы набыць жыллё для сына, якому зараз 27 гадоў.

— Ва ўсе інстанцыі хаджу і хадзіць буду! Бо калі парушылі правы чалавека — трэба кампенсаваць яму і матэрыяльныя, і маральныя выдаткі, кажа Зінаіда Стэфанаўна.

■

Паверце, мне не хочацца іранізаваць на гэты конт. Бо я разумею, колькі цяжкасцяў і непрыемнасцяў прыйшлося вынесці Зінаідзе Стэфанаўне і Валянціне Афанасьеўне за гады блуканняў па калідорах улады.

У абласным судзе мне сказалі, што рашэнне суда па справе Батуры «сто разоў» разглядалі ўсе магчымыя і немагчымыя інстанцыі, уключаючы Вярхоўны суд, Камітэт дзяржаўнага кантролю, Генеральную пракуратуру, Лігу правоў чалавека і многія іншыя. У некаторыя з гэтых устаноў маіх скаржніц ужо проста не пускаюць на той падставе, што перапіска па іх справах даўно перапынена.

Шкада, — сказалі мне Зінаіда Стэфанаўна і Валянціна Афанасьеўна, — што Адміністрацыя Прэзідэнта не прымае скаргаў і не дае адказаў... Але гэта не азначае, на думку вопытных заяўніц, што пасля столькіх высілкаў — тупік і больш няма да каго звярнуцца. Зусім нядаўна жанчыны ездзілі ў сталіцу з нагоды адкрыцця там місіі АБСЕ. Паскардзіліся там, ім быццам бы паабяцалі дапамогу. А днямі я сустрэла іх ля магілёўскага Дома Саветаў у кампаніі нейкага мужчыны, яны вялі актыўную гутарку з выкарыстаннем вялікай колькасці юрыдычных тэрмінаў. Напэўна, шукаюць новых заступнікаў...

■

Цяжка асуджаць за такі лад жыцця і навязлівасць «вечных скаржнікаў». Асабіста мне здаецца, што яны самі сябе загналі ў гэтую пастку і выйсце з яе наўрад ці знойдуць самастойна.

З аднаго боку, блізкія людзі, сваякі, нашчадкі, дзеля якіх часцей за ўсё і становяцца скаржнікамі састарэлыя людзі, не толькі не пярэчаць памкненням «дабівацца да канца жыцця справядлівасці», а (у мяне склалася такое ўражанне), насупраць, імкнуцца замацаваць у свядомасці скаржнікаў патрэбнасць і правільнасць зваротаў ва ўсе магчымыя інстанцыі. Заўсёды прыемна, калі твае праблемы вырашае хто-небудзь іншы...

Я, прызнаюся шчыра, спрабавала выпытаць у сваіх суразмоўніц самае галоўнае, прымусіць іх задумацца: навошта ім гэтыя блуканні і размовы з «добрымі дзядзькамі і цёткамі», навошта яны марнуюць свае апошнія сілы і гады жыцця на нейкія квадратныя метры? Няўжо не хочацца ім кінуць усё і максімальна выкарыстаць адпушчаны ім Богам час на тое, каб атрымаць задавальненне ад жыцця, гадаваць унукаў ці корпацца патроху на градах?..

Яны быццам бы не чулі маіх пытанняў, гаварылі ў соты раз, што «ўсё роўна свайго даб'юцца»...

■

Тое, што гэтыя жанчыны безумоўна зацыкленыя на сваіх праблемах, псіхолаг з Магілёўскага дзяржаўнага універсітэта Эліна Катлярова сказала адразу, толькі назвала гэта па-навуковаму — сіндромам нерэалізаванай магчымасці, не вырашанага калісьці пытання, панесенай страты.

— Вашы скаржнікі не ў стане перажыць страту , — пасля доўгай гаворкі прыйшла нарэшце да высновы Эліна Катлярова. —Моманты страт ёсць у жыцці кожнага чалавека — гэта смерць блізкага чалавека, ці працей — крадзеж нейкіх рэчаў, страта ўласнасці.

Псіхолаг упэўненая, што тым, хто трапіў у разрад «вечных скаржнікаў», патрэбна дапамога спецыялістаў, але толькі ў тым выпадку, калі яны самі гэтай дапамогі захочуць. Але ўся праблема ў тым, што маім знаёмым жанчынам ніколі не прыйдзе ў галаву шукаць рады ў псіхолага...

**Ілона ІВАНОВА.**
**Фота Аляксандра ЛІЦІНА.**

## ПРАФСАЮЗЫ: СПАЧАТКУ ЗАРПЛАТУ, ПОТЫМ — КВАРТПЛАТУ?

Федэрацыя прафсаюзаў прыняла рашэнне звярнуцца ва ўрад краіны з прапановай вызваліць ад выплаты пені за пратэрміноўку жыллёва-камунальных плацяжоў грамадзян, якія своечасова не атрымліваюць налічаную ім зарплату.

Варта нагадаць, што сёння гэта пеня складае 0,5 працэнта ад сумы плацяжоў за кожны дзень пратэрміноўкі, прычым «лічыльнік» пачынае працаваць у выпадку, калі гаспадар кватэры не здолеў разлічыцца з даўгамі да канца наступнага месяца.

Паводле ацэнак саміх камунальнікаў, зараз агульная сума неплацяжоў за жыллёва-камунальныя паслугі у Беларусі знаходзіцца на ўзроўні 13-14 працэнтаў. Аднак, на думку прафсаюзаў, такі стан спраў тлумачыцца зусім не нежаданнем грамадзян вяртаць даўгі, а звычайнай адсутнасцю магчымасцяў. Так, па стану на канец мінулага месяца, толькі пратэрмінаваная запазычанасць па зарплаце ў рэспубліцы перавышала 1 трлн. рублёў. Апроч таго, нельга скідваць з рахунку і тую малапрыемную акалічнасць, што звыш 122 тысяч жыхароў краіны з'яўляюцца беспрацоўнымі, сярэдні памер дапамог якім складае ўсяго 301,7 тыс. рублёў.

**Сяргей ГРЫБ.**

# АХОВУ ЗДАРОЎЯ ВЯСКОЎЦЫ МАЮЦЬ. А ЗДАРОЎЕ?

**Апошнім часам пра ахову здароўя на вёсцы пішуць няшмат. Мо таму, што праблемы там «мясцовага» маштабу, а можа і таму, што эканамічна нявыгадна — рэкламу дарагога медыцынскага абсталявання ці «цудадзейных» прэпаратаў і харчовых дабавак не падвярстаеш. Грошай на іх набыццё ў вяскоўцаў проста няма. А вось праблем, на жаль, хоць адбаўляй.**

## ТРАГЕДЫЯ ВЁСКІ

У дзверы ціхенька пастукалі. Фельчар паглядзела на гадзіннік — было амаль 10 вечара. Хуценька пайшла адчыняць. На ганку стаялі трое падлеткаў — дзяўчынка і два хлопцы. Гадоў 12—15. Зайсці ў хату адмовіліся. Размову доўга не пачыналі — вагаліся. Нарэшце старэйшы, кінуўшы пагляд на сваіх спадарожнікаў, ціха пачаў: «Цётачка, адпраўце, калі ласка, нашу мамку лячыцца. Кожны дзень п'е, з бацькам сварыцца, б'ецца. Нас яна ўжо не слухае...». Шморгнуўшы носам, дзяўчынка дадала: «Дапамажыце, вельмі Вас просім».

Праз колькі гадоў такім жа вечарам фельчар вярталася дадому. Насустрач ёй ішоў, дакладней ледзь плёўся, моцна хістаючыся, ушчэнт п'яны зусім малады мужчына. У ім, хоць і не адразу, фельчар пазнала аднаго з тых падлеткаў, якія некалі так прасілі ратаваць іх маці. Гэты хлопец паспеў абзавесціся жонкай, нарадзіць дзяцей і... трапіць у непераадольную залежнасць ад «зялёнага змея».

Гэту нявыдуманую гісторыю прывёў у якасці прыкладу. Піць на вёсцы пачалі нават не сем'ямі — дынастыямі. Гэта сапраўды навала, і перадаецца яна з пакалення ў пакаленне. Так лічаць медыкі, якія працуюць і жывуць з гэтымі людзьмі. Не ўсюды становішча такое дрэннае, ёсць і выключэнні. На жаль, іх усё менш і менш.

Сацыяльна няшчасныя людзі, сем'і, вёскі... Гучыць як дыягназ. Шукаць прычыны п'янства — справа сацыёлагаў. Медыкі часцей сутыкаюцца з яго наступствамі. Трэба адзначыць, — жудаснымі: заўсёды п'яныя бацькі, паўгалодныя, брудныя, абарваныя дзеці, якія часта нараджаюцца ўжо хворымі. А што іх чакае ў гэтым новым свеце, які сустракае п'янымі разборкамі бацькоў, халоднай, пустой хатай, дзе няма чаго есці? Якое тут здароўе?

* * *

**Спецыялісты ў галіне аховы здароўя сцвярджаюць, што здароўе нацыі дзесьці толькі на 12 працэнтаў залежыць ад медыцыны.**

Дзяржынскі раён нельга назваць тыповым для Беларусі — адбіваецца блізкасць да сталіцы. Аднак характэрных праблем і тут хапае. Па ўзроўню медыцынскага абслугоўвання насельніцтва вобласці Дзяржынскі раён знаходзіцца дзесьці пасярэдзіне. Медыцына прадстаўлена тут цэнтральнай раённай бальніцай і паліклінікай, 4 участковымі бальніцамі, 16 ФАПамі, 3 урачэбнымі амбулаторыямі і паліклінікай у г.п. Фаніпаль. Ложкавы фонд раёна складае 405 ложкаў, 295 з якіх — у цэнтральнай райбальніцы. Абслугоўваюць насельніцтва 149 урачоў і 442 сярэднія медыцынскія работнікі. У медыкаў ёсць і такі паказчык — забяспечанасць насельніцтва ўрачамі. Дык вось у Дзяржынскім раёне ён летась складаў 24,8 на 10 тысяч насельніцтва (для параўнання: у 1994 годзе — 26,9 на 10 тысяч).

Асаблівай праблемы з кадрамі ў нас няма, — адзначыў галоўны ўрач тэрытарыяльнага медыцынскага аб'яднання (ТМА) Аляксандр Шамай. — Узнікаюць пытанні з працай тэрапеўтаў і педыятраў у Фаніпалі. Мінск побач, і яны імкнуцца ўхапіць дзе стаўку, дзе палову ў медыцынскіх установах сталіцы. Прычына банальная — там больш плацяць. Як выйсце Аляксандр Іванавіч назваў умацаванне працоўнай дысцыпліны. Прыйдзецца ісці на непапулярныя меры.

Асобная гутарка — медработнік на фельчарска-акушэрскім пункце. У раёне на сённяшні дзень 2 ФАПы, не ўкамплектаваныя спецыялістамі. Насельніцтва абслугоўваюць бліжэйшыя ўрачэбныя амбулаторыі. У чым справа? Не хочуць выпускнікі медвучылішчаў размяркоўвацца, шчыра скажам, часта проста ў глухамань. Тым больш, калі яны яшчэ і не мясцовыя. Не задавальняюць маладых спецыялістаў у першую чаргу бытавыя ўмовы. А калі яшчэ няма жылля? Ды і праца ў работніка ФАПа сёння далёка не цукар.

Што датычыцца дзвюх вакансій на ФАПах раёна, то, мяркуецца, яны будуць «закрытыя» пасля размеркавання гэтым летам. Зусім іншае пытанне, што вельмі часта моладзь едзе адпрацаваць два абавязковыя гады на вёску, як на катаргу. І па сутнасці там «адбывае тэрмін». Натуральна, такая атрымліваецца і праца.

Гутарыў з фельчарамі ФАПаў, якія адпрацавалі там усё сваё жыццё. Што б вы думалі? Першыя гады працы нават яны па тры разы на дзень хапаліся за чамаданы з мэтай бегчы з вёскі як мага далей.

## ФАП — АПОШНІ АПЛОТ ВЯСКОВАЙ МЕДЫЦЫНЫ

Сёння ФАПы звычайна фінансуюцца з бюджэтаў сельсаветаў. Ім сродкі ў сваю чаргу пералічвае райбюджэт. Сітуацыя крыху дзіўная. У ФАПа атрымліваюцца два гаспадары — сельсавет і ТМА. Прычым першы вельмі далёкі ад медыцыны. Пагадзіцеся, медыкам лепш бачна, на што і колькі патрэбна грошай той ці іншай медустанове. Ды напрамую і трапяць яны хутчэй (не будзе каму прытрымліваць, а то і проста «ўразаць»). У Дзяржынскім раёне палічылі мэтазгодным фінансаванне ФАПаў праз ТМА. Пайшлі на такі крок у пачатку 1997 года і, як паказвае практыка, не памыліліся. Так лічыць не толькі кіраўніцтва, але і самі фельчары.

З намеснікам галоўнага ўрача па амбулаторна-клінічнай дапамозе Уладзімірам Губашам праехалі па ФАПах. Першы знаходзіцца ў вёсцы Петкавічы на тэрыторыі сельскагаспадарчага прадпрыемства «Крутагор'е» (былы калгас-мільянер імя Дзяржынскага). Разгаварыўся з шафёрам, які тут працуе. Зарплата каля 4 мільёнаў плюс мяса і малако. Каментарыі не патрэбны. Калі такая высокааплатная работа, абы-каго на працу не возьмуць. Сацыяльных пытанняў амаль не ўзнікае. Дзеці, нават у мнагадзетных сем'ях, дагледжаныя.

Абслугоўвае насельніцтва малады фельчар Алена Александровіч. Сама мясцовая, з'язджаць нікуды не плануе, таму і працаваць стараецца добра, на перспектыву. Працы хапае — радыус дзейнасці ФАПа каля 12 кіламетраў. Летам на веласіпедзе, а зімой? Добра, калі калгас машыну дасць ці знаёмы хто падкіне. А то і пешшу прайсціся прыйдзецца. Хвароба на надвор'е не глядзіць. Такая сітуацыя на абсалютнай большасці ФАПаў краіны.

У дзень звычайна па 10—15 наведвальнікаў. Гэта да абеду. Потым па выкліках. Трэба і ў садзік заскочыць, і ў школу. Пра дыспансерных хворых не забыцца...

Гаспадыня Грытчынскага фельчарска-акушэрскага пункта Рома Міхайлаўна Аляшкевіч працуе на вёсцы 36 гадоў. Больш вопытнага чалавека знайсці цяжка. Сама, дарэчы, мінчанка. Прыехала па размеркаванню ў Дзяржынскі раён ды так і засталася тут жыць. У 1981 годзе за добрасумленную працу (калі яшчэ працавала на Навасёлкаўскім ФАПе) была ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў. Зараз у Навасёлках бальніца (ініцыятыва Ромы Міхайлаўны).

Гаспадарка тут намнога слабейшая (па словах саміх калгаснікаў, атрымліваюць 600—800 тысяч рублёў у месяц). Актуальныя хваробы для гэтай мясцовасці лёгка вызначыць, глянуўшы на інфармацыйныя брашуры, што ляжаць на ФАПе: грып, педыкулёз, дыфтэрыя, венерычныя захворванні... Шмат сацыяльных хвароб — значыць хапае аматараў «зялёнага змея».

Значна менш сталі нараджаць дзяцей. «У мяне сёння толькі 7 цяжарных жанчын, — заўважае Рома Міхайлаўна, — некалі было 40...»

Самая вялікая праблема сельскай медыцыны — абыякавае стаўленне вяскоўцаў да свайго здароўя. Да доктара звяртаюцца калі ўжо сапраўды без кваліфікаванай дапамогі не абысціся. Адным няма калі — таму што працуюць не складаючы рук, другім — таму што беспрабудна п'юць. Так і жывуць. Медыкі тлумачаць гэта нізкай культурай здароўя ў працаўнікоў вёскі. Зацягнуць кагосьці на той жа флюараграф, які прыязджае раз на год, можна хіба волакам. Больш вопытным фельчарам усё ж удаецца «дабіцца разумення», але іх няшмат.

Некалі ўзнімалася пытанне аб мэтазгоднасці існавання ФАПаў. Не ведаю, каму яно прыйшло ў галаву, але, відаць, той чалавек на вёсцы не жыў і не працаваў. ФАП — гэта сапраўды апошні аплот медыцыны ў сельскай мясцовасці. Закрыйце яго — і што застанецца? З нашым транспартам да райцэнтра не ўсякі дабярэцца. Як бы там ні было, на кожным ФАПе — медык, набор неабходных лекаў, амаль усюды невялічкая аптэка (калі чаго і няма, могуць пад заказ прывезці). Ёсць хірургічныя інструменты, часта абсталяваныя фізіятэрапеўтычныя, жаночыя, стаматалагічныя кабінеты. Згодна з вызначаным графікам для прафілактычных аглядаў прыязджаюць спецыялісты з райцэнтра.

Як сцвярджаюць самі медыкі (вяскоўцы з такім меркаваннем пагаджаюцца), ФАП — гэта перш за ўсё чалавек, які там працуе. Моцны, мэтанакіраваны, камунікабельны фельчар — моцны ФАП нават і ў небагатай гаспадарцы. Калі не...

Бывалыя медыкі чамусьці лічаць, што моладзь не справіцца.

**Сяргей ПРОТАС.**

# ПЫТАННІ ПРЫВАТЫЗАЦЫІ ВЯСКОВАГА ЖЫЛЛЯ ВЫРАШАЕ АГУЛЬНЫ СХОД КАЛГАСНІКАЎ

***Адрамантавалі за ўласны кошт калгасную кватэру, але старшыня ніякім чынам не жадае вырашаць пытанне аб яе продажы (ці прыватызацыі). Як нам быць?***

**Картановіч Р. С.,** Воранаўскі раён.
**Рабецкая М. Ф.,** Смаргонскі раён.

Як растлумачылі «Звяздзе» ў аддзеле па арганізацыі і правядзенню жыллёвай рэформы Міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі, пастановай Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь «Аб увядзенні ў дзеянне Закона «Аб прыватызацыі жыллёвага фонду» ўстаноўлена, што наймальнікі жылых памяшканняў у дамах калгасаў і іншых установ, заснаваных на калектыўных формах уласнасці, могуць прыватызаваць займаемыя імі жылыя памяшканні пры пагадненні з уласнікам і на ўмовах, якія ім вызначаны (у адпаведнасці з рашэннем агульнага сходу калгаснікаў). Так што ваша пытанне можа быць вырашана толькі калегіяльна і адказ старшыні не вырашае справы.

# НАЦЫЯНАЛЬНЫ ТУРЫСТЫЧНЫ ПРАДУКТ БУДЗЕ ЎДАСКАНАЛЬВАЦЦА

**Услед за ўвядзеннем у абарот з 1 красавіка сёлетняга года ў нашай рэспубліцы новага турыстычнага ваўчэра ў беларускай турыстычнай галіне рыхтуецца чарговая рэформа — увядзенне новага парадку ліцэнзавання беларускіх турфірмаў.**

Калі раней ліцэнзіі на ажыццяўленне турыстычнай дзейнасці былі строга размежаваныя на выязны, уязны і ўнутрырэспубліканскі турызм, то цяпер турыстычныя фірмы чакае падзел на тураператарскія і турагенцкія прадпрыемствы. Тураператарскімі будуць прызнаныя толькі тыя з фірмаў, якія змогуць прапанаваць кліенту ўласна распрацаваны нацыянальны турыстычны прадукт, г. зн. створаныя асабіста імі турыстычныя ці экскурсійныя маршруты. Напрыклад, РТЭВА «Беларусьтурыст» працуе зараз над стварэннем на тэрыторыі рэспублікі новых лодачных, байдарачных маршрутаў і маршрутаў для экстрэмальнага турызму. Трэба заўважыць, што апошні від турызму асаблівай папулярнасцю карыстаецца ў іншаземцаў, бо правяраць сябе на выжывальнасць стала сёння ў свеце даволі модна. Цікава, што на прапановы «Беларусьтурыста» адгукнуліся ўжо нават ЗША, Аргенціна і Балівія, якія знайшлі яго старонку з інфармацыяй у «Інтэрнэце».

Усяго ж, па прагнозах Міністэрства спорту і турызму, з больш чым 600 беларускіх турыстычных фірмаў тураператарскімі могуць быць прызнаныя толькі прыкладна 10—15. Усе ж астатнія турагенцкія фірмы будуць працаваць па распрацаваных імі маршрутах.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

# ПАЛЯПШАЦЬ ЖЫЛЛЁВЫЯ ЎМОВЫ ТРЭБА ДАЧЦЭ. АЛЕ БЕЗ ІЛЬГОТАЎ

***Мая маці з'яўляецца непаўналетнім вязнем. У вашай газеце 7 лютага пад рубрыкай «Пытальнік» былі пералічаны льготы для гэтай катэгорыі грамадзян. У прыватнасці, там быў адзін пункт — «беспрацэнтная пазыка на індывідуальнае жыллёвае будаўніцтва». Мы звярнуліся ў Петрыкаўскі райвыканкам, там нам адказалі, што такой ільготы няма. Звярнуліся ў Гомельскі райвыканкам — адказ той жа. Таму патлумачце, з якой крыніцы ўзята гэтая інфармацыя? Загадзя вам удзячныя.***

**Надзея Бамбіза,**
в. Ляскавічы Петрыкаўскага раёна.

Інфармацыя, апублікаваная ў газеце 7 лютага, была прадастаўлена рэдакцыі, нагадаем, Міністэрствам сацыяльнай абароны. Што датычыць сутнасці вашага пытання, то мы атрымалі адказы на гэты конт з аддзела сацыяльнай абароны і ўпраўлення капітальнага будаўніцтва Петрыкаўскага раённага выканаўчага камітэта.

Сапраўды, згодна з Пастановай Савета Міністраў СССР ад 6.10.89 г. № 825 «Аб прадастаўленні льгот былым непаўналетнім вязням фашысцкіх канцлагераў» прадугледжана права на атрыманне беспрацэнтнай пазыкі на індывідуальнае будаўніцтва ў выпадку, калі вы стаіце ў чарзе на паляпшэнне жыллёвых умоў і жадаеце палепшыць гэтыя самыя жыллёвыя ўмовы шляхам будаўніцтва ці набыцця жылога дома.

«У сучасны момант з вамі пражывае сям'я дачкі — у доме жылой плошчай 23 кв. метры, які належыць вам на праве асабістай маёмасці. Значыць у дадзеным выпадку жыллёвыя ўмовы неабходна паляпшаць сям'і дачкі, на якую не распаўсюджваецца льгота на атрыманне беспрацэнтнай пазыкі», — гаворыцца ў афіцыйных паперах.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

# Старонка Паўла Глобы

## 18 красавіка, субота

**РЭКАМЕНДАЦЫІ**. Не загружайце сябе аднастайнай работай. Добра правесці дзень з сябрамі. Пазбягайце стасункаў з агрэсіўна настроенымі людзьмі. Не паддавайцеся негатыўным эмоцыям, усё трэба ўспрымаць лёгка, з гумарам. Спрыяльны час для пачатку курса па навучанню новай прафесіі ці рамяству. Рэкамендуецца купляць адзенне, займацца шыццём ці латаннем. Адмоўцеся сёння ад парфумы і касметыкі. Старайцеся больш хадзіць пешшу, карысныя фізічныя практыкаванні, масажы, расціранні, а таксама лазня.

**ПРЫМЕТЫ**. Калі вы выпадкова пачулі, што нехта пра вас гаворыць, пачулі сваё імя — знак дапамогі, вас пазбавяць ад памылак. Знайсці скураны прадмет — да дапамогі. Адчуць моцны вецер у спіну — знак таго, што вы знаходзіцеся на правільным шляху. Парваць адзенне — да страты абароны, галечы. Калі на працягу дня вам назаляе музыка — значыць вы знаходзіцеся пад кантролем Вышэйшых сіл, у вас будуць значныя перамены ў будучым. Спатыкнуцца на правую нагу — для мужчын (на левую — для жанчын), нават калі вы пры гэтым паваліцеся, — добрая прымета, таму што вас папярэджваюць і засцерагаюць ад небяспекі. Ірвецца адзенне, адлятае гузік (пастарайцеся яго знайсці) — да зняцця абароны.

**СНЫ**. Калі вы чуеце ў сне галасы, то сон прарочы. Лепш, калі сны ў гэты дзень не каляровыя. Ніякія сімвалічныя сны ў разлік не прымаюцца, і інфармацыя сну трактуецца прама. Светлыя сілы размаўляюць з чалавекам прама: што скажуць, тое і адбудзецца. У сне вам дадуць зразумець, што трэба рабіць, як сябе «рамантаваць». Чуць музыку — знак дапамогі і заступніцтва. Бачыць кнігі ці чытаць — да добрай перамены ў жыцці. Дрэнна іх ірваць ці спальваць. Убачыць агонь — папярэджанне аб памылках, якія вы можаце ўчыніць. Адчыняць дзверы — да новых знаёмстваў. Бегчы некуды, хутка ісці, ехаць — да страты, крадзяжу, падману, небяспекі.

**ЕЖА**. Карысныя агародніна, супы і салаты з яе, запраўленыя алеем. Рытуальная страва гэтага дня — капуста. Добра згатаваць піражкі з капустай і морквай.

**АДЗЕННЕ**. Колеры гэтага дня — залацісты, светла-бэзавы, жоўты.

**МЕДЫЦЫНА**. Магчымыя запоры, сып на скуры, абвастрэнне хвароб каленных суставаў, тазасцегнавога пояса, пазваночніка. Высокая небяспека пераломаў. Процілаказаныя лячэнне і вырыванне зубоў.

**Падрыхтавана да друку спецыяльна для «Звязды» астралагічным цэнтрам «АРБА».**

Васіль БАРАБАШ:

# «НАШУ ПРАЦУ І НАШЫХ ЛЮДЗЕЙ ВЕДАЮЦЬ НЕ ТОЛЬКІ Ў БЕЛАРУСІ, АЛЕ І ЗА ЯЕ МЕЖАМІ»

***Дырэктар Гродзенскага ўпраўлення адкрытага акцыянернага таварыства «Белцеплаізаляцыя» Васіль Іванавіч БАРАБАШ узначальвае прадпрыемства 25 гадоў. Разам з калектывам ён перажыў звышцэнтралізаваную сістэму арганізацыі будаўніцтва, гады перабудовы, усеагульнага хаосу і развалу, пераходу на рэйкі рынaчнай эканомікі. Як жа прадпрыемству працуецца ў новых умовах? Пра гэта наша размова.***



— У САСТАВЕ адкрытага акцыянернага таварыства мы працуем усяго каля года. Да гэтага «Белцеплаізаляцыя» была на арэндзе, і мы, як адно са структурных падраздзяленняў, — таксама. Таму наўрад ці правільна будзе гаварыць, што нейкія поспехі дасягнуты дзякуючы акцыяніраванню. Наша ўпраўленне ўстойліва працавала заўсёды.

**— І ўсё ж на гадавым сходзе акцыянераў прыводзіліся вельмі ўжо красамоўныя лічбы...**

— Так. Гадавы аб'ём выкананых работ у нас склаў 56,6 мільярда рублёў, а прыбытак — 19,3 мільярда. Гэта амаль 30 працэнтаў таго, што зрабілі 10 арганізацый «Белцеплаізаляцыі» ўсёй рэспублікі. Кажу гэта не для таго, каб кагосьці пакрыўдзіць, а проста канстатую факт, які вядомы ўсім.

**— Разумею вашу, Васіль Іванавіч, далікатнасць, але ж эканамічны аналіз без супастаўленняў і параўнанняў немагчымы. За кошт чаго, на вашу думку, стаў магчымым поспех?**

— Па-першае, каб выканаць нейкія аб'ёмы работ, трэба іх знайсці. Раней, пры планавай гаспадарцы і вялікім размаху будаўніцтва, гэта было няцяжка. Цяпер жа, пры ўсеагульнай беднасці, адсутнасці ў заказчыкаў фінансавых сродкаў, неплацяжах, праблема шматразова ўскладнілася. Таму кіраўніцтву, усім інжынерна-тэхнічным работнікам прыходзіцца штодзённа даказваць узровень свайго прафесіяналізму. Нашым кадрам гэта ўдаецца. Мне, як кіраўніку, прыемна адзначыць, што да нас прыйшлі спецыялісты з такіх вядомых у горадзе арганізацый, як «Гроднапрамбуд», будтрэст № 30 і іншых, дзе яны займалі больш высокае службовае становішча. Іх прывабілі, як я разумею, перспектывы працы, мікраклімат і, вядома, заработная плата. Яна, дарэчы, самая высокая сярод будаўнікоў горада. Менавіта стараннямі такіх людзей, як галоўны механік Г. Крапівін, начальнік вытворча-эканамічнага аддзела М. Мякіш, галоўны бухгалтар Л. Анішчык, намеснік дырэктара А. Карнач, прарабы І. Салалайка, В. Зінчанка, С. Ермаловіч і іншых, мы і маем добрыя эканамічныя паказчыкі. А з другога боку, нагрузка на нашых інжынерна-тэхнічных работнікаў у два, а то і тры разы вышэйшая, чым у іншых структурных прадпрыемствах. У нас немагчыма сітуацыя, пра якую ў народзе кажуць: «на аднаго раба — тры прарабы». Эканоміка — такая галіна, дзе ўсё павінна падлічвацца. Дык вось: выкананне аб'ёмаў работ на 1 мільярд у грашовым выражэнні ў нас забяспечваюць 0,336 адзінкі ІТР. Для прыкладу: у будаўнічых трэстах г. Гродна на адзінку выкананага аб'ёму ітээраўскіх работнікаў у 10—12 разоў больш, чым у нас. Гэта таксама тая крынічка, з якой бяжыць і прыбытак, і зарплата, і эканомія, і ўсё астатняе.

Далей. Ініцыятыву, самастойнасць, адказнасць камандзіраў і арганізатараў вытворчасці мацуюць высокай працоўнай і тэхналагічнай дысцыплінай, адданасцю роднаму калектыву радавыя працаўнікі. У спалучэнні гэта дае такую якасць работы, з якой не сорамна і ў Еўропе. Так, мы шукаем дзелавых партнёраў, заказчыкаў, але і яны нас шукаюць. Бо ведаюць, мы зробім усё на вышэйшым узроўні. Я прывяду толькі некаторыя пісьмовыя водгукі фірмаў і прадпрыемстваў, для якіх мы працавалі. Вось нямецкая фірма «Цімер АГ», фірмы «ABB Susa Inc» і «ELBO — Bau Grupре» паведамляюць: «Усе работы выкананы ў адпаведнасці з праектам і патрабаваннямі СНіП з прадастаўленнем пашпартоў на матэрыялы і вырабы. Якасць работ добрая, адпавядае еўрапейскім стандартам. Гродзенскае БУ «Белцеплаізаляцыя» рэкамендуем для іншых фірмаў як надзейнага партнёра». Падобныя водгукі прыйшлі і ад нашых беларускіх заказчыкаў — «Хімвалакно», ВА «Азот», лакаматыўнага дэпо Баранавічы і іншых.

## Спецыялісты Гродзенскага ўпраўлення ААТ «Белцеплаізаляцыя» пацвярджаюць сваю высокую марку на аб'ектах Беларусі, Сібіры, Масквы, а зараз працуюць у Крамлі

Зараз група нашых спецыялістаў у саставе М. Наліўкі, В. Дзямешчыка, М. Скамароха, А. Рыжкова працуе ў Маскве на аб'ектах Крамля. Працягваем працаваць на шэрагу мікрараёнаў Масквы. І спадзяёмся, што выйграем конкурс на вытворчасць работ у горадзе Будзёнаўску. А аб'ём работ там велізарнейшы — на мільёны долараў.

Хацеў бы адзначыць яшчэ адну вельмі важную акалічнасць. Нашы заказчыкі супрацоўнічаюць з намі не за прыгожыя вочы і ўзнёслыя словы, але і таму, што мы эканомім ім сродкі. Пра якасць я ўжо казаў, аднак падкрэслю: зараз усё больш і больш гаспадарнікаў, якія ўмеюць лічыць грошы, а кожны кубічны метр якасна зробленай ізаляцыі эканоміць у год адну тону ўмоўнага паліва і акупляецца за адзін год. А сюды варта дабавіць і такую лічбу: за мінулы год мы сваім заказчыкам зберaглі больш за 20 мільярдаў беларускіх рублёў, бо ні адна арганізацыя нашага профілю ў рэспубліцы не выконвае работы танней за нас.

**— Васіль Іванавіч, апошняя лічба патрабуе тлумачэння, бо вы ж не працуеце сабе ва ўрон.**

— Калі ласка. Мы купляем метал не праз камерцыйныя структуры, а наладзілі прамыя сувязі з Ліпецкім металургічным камбінатам. Толькі на гэтым нашы заказчыкі выйгралі 5,5 млрд. руб. І яшчэ. Ніводнага кілаграма матэрыялаў у нас не ідзе ў адходы. Я з гонарам за нашых людзей магу сказаць: мы адзіныя ў рэспубліцы наладзілі ўласную вытворчасць ізаляцыйных матэрыялаў — армацэменту, шклопластыку, пакетаў і інш. Замена металу тым жа армацэментам прынесла яшчэ 12 млрд. руб. Заўважу: якасць работ тая ж, а перавага, акрамя грошай, яшчэ адна — метал з трубаправодаў крадуць, а армацэментныя абалонкі дачнікі яшчэ не прыдумалі як выкарыстоўваць. Усё гэта разам узятае і робіць нашы паслугі прывабнымі для заказчыка. І мы іх чаканні не можам падмануць. Разумееце, прыстойнасць і сумленнасць у адносінах да партнёраў — катэгорыі не толькі маральныя, але і эканамічныя. Вядома, гэта дабаўляе нам клопату, бо прасцей, скажам, купіць той жа покрыўны матэрыял у Наваполацку, але ж і абыдзецца ён заказчыку значна даражэй. І пазіцый такіх шмат.

**— Прыбытак, які атрымала прадпрыемства са штатнай колькасцю працуючых у 134 чалавекі, вельмі ўнушальны. На якія мэты вы яго накіравалі?**

— У нас сярэдняя зарплата ў мінулым годзе склала 4,7 млн. рублёў — не самая высокая ў акцыянерным таварыстве. У Брэсцкім упраўленні, напрыклад, зарплата 5 млн. Але не ўсё можна вымяраць зарплатай. Зарплата можа быць высокай, а ўмовы працы для людзей жудасныя. Адсюль хваробы, траўматызм, нават смяротныя выпадкі на вытворчасці. А грошай, каб больш-менш выправіць становішча, няма. Мы ж амаль 5 мільярдаў рублёў накіравалі на набыццё новай тэхнікі. Купілі 6 новых аўтамабіляў «Газель» і аддалі іх на перыферыю — у Ліду, Ваўкавыск, Слонім, Смаргонь. Людзі там спакойна могуць дабрацца на працу і з працы, прывезці патрэбныя матэрыялы. Набылі аўтапагрузчык, аўтагідрапад'ёмнік, значна абнавілі станочны парк. Думаю, гэта большы клопат пра рабочых, чым дадатковая сотня тысяч да зарплаты.

Нашы людзі не пакрыўджаныя. У мінулым годзе кожны член калектыву дадаткова атрымаў па 2 мяхі цукру, па 2 мяхі мукі, па 30 літраў алею, па 1 мільёну рублёў на бульбу, і да дня будаўніка 50 працэнтаў месячнага заробку да водпуску, навагоднія падарункі коштам 1 мільён 600 тысяч рублёў і г. д. З разуменнем у калектыве аднесліся да ахвяраванняў на дабрачынную дапамогу. Дзесяткі мільёнаў рублёў былі выдаткаваны 2-й гарадской бальніцы, жаночаму манастыру, праваслаўнай царкве вёскі Вярэйкі Ваўкавыскага раёна, школе алімпійскага рэзерву, Уладзімірскай царкве ў Гродне дапамаглі з рэстаўрацыяй...

**— А як з дывідэндамі ў акцыянераў, і наогул, якімі Вам бачацца перспектывы жыцця ва ўмовах новай формы ўласнасці?**

— Вы задалі мне балючае і вельмі вострае пытанне. Калектыў упраўлення валодае 116.000 акцый. З іх амаль 42 тысячы людзі набылі іх як за чэкі, так і за асабістыя грошы. Чэкаў укладзена на суму 534,7 мільёна рублёў, а грошай — 930,6 мільёна. Кошт адной акцыі 35 тыс. руб., ільготнай — 28 тысяч. Па рашэнню сходу акцыянераў на адну акцыю будзе выплачана трымальніку 512 руб. 10 капеек. Аж на цэлы карабок запалак! А зараз давайце падлічым, колькі патрэбна часу, каб такія дывідэнды акупілі кошт адной акцыі? 55—60 гадоў! Жыцця не хопіць. Гэта выглядае як здзек з людзей, і таму ўвесь наш калектыў справядліва палічыў сябе падманутым. Чаму? Бо ў сярэднім кожны акцыянер атрымае за год усяго 400—500 тысяч рублёў. Сума мізэрная. Мы ж, зыходзячы са свайго прыбытку, мелі магчымасць выплаціць дывідэндаў на 20—30 мільёнаў рублёў кожнаму. Адчуваеце розніцу? Таму нашы прадстаўнікі ўзнялі на сходзе пытанне аб арганізацыі на нашай матэрыяльнай базе асобнага акцыянернага таварыства. Але нам адмовілі ў гэтым, і, я лічу, несправядліва. Галоўны аргумент апанентаў: хто ж адпусціць курыцу, якая нясе залатыя яйкі?

Нашы аргументы: па-першае, мы не збіраемся пакідаць акцыянернае таварыства «Белцеплаізаляцыя», мы будзем з ім сумесна працаваць на дагаворных пачатках і плаціць за гэта пэўныя сумы; па-другое, мы не просім аддаць нам бясплатна (дарэчы, ужо выкупленую намі) матэрыяльную базу. Мы просім яе ў арэнду, за якую зноў жа будзем плаціць. Дайце толькі нам магчымасць быць незалежнымі ў вырашэнні жыццёва важных пытанняў, у тым ліку і ў размеркаванні дывідэндаў. Мы не патрабуем штосьці процізаконнага. На такіх прынцыпах працуе, і працуе паспяхова, асацыяцыя «Гроднарамбуд», дзе ўсе рамонтна-будаўнічыя ўпраўленні раёнаў самастойныя і ніхто ўцякаць з асацыяцыі не збіраецца. Наадварот, у асацыяцыю, якую ўзначальвае Раман Карпук, нават просяцца няпрофільныя прадпрыемствы.

Чаму я пра гэта гавару? Баюся, што неразумнымі дзеяннямі будзе скампраметавана сама ідэя акцыяніравання. І замест таго, каб людзі стараліся, кармілі сябе, свае сем'і, яны зноў могуць стаць утрыманцамі дзяржавы, не зацікаўленымі ў выніках сваёй працы. А адсюль і незадаволенасць сабой, а галоўнае — дзяржавай. Дык навошта пладзіць незадаволеных? Я не разумею. Іх і так хапае.

Што атрымліваецца сёння? Кіраўніцтва акцыянернага таварыства вымушана арыентавацца не на лепшых, а на горшых, бо апошнія не зарабілі сродкаў на прыстойную выплату дывідэндаў. У гэтым выпадку церпяць ініцыятыўныя, губляюцца стымулы высокапрадукцыйнай працы, у рэшце рэшт, губляе і дзяржава, бо дрэнная работа нікому не на карысць.

**— Васіль Іванавіч, мне здаецца, што гэта павінны разумець ва ўладных структурах, у міністэрствах архітэктуры і будаўніцтва, дзяржмаёмасці, іншых органах, зацікаўленых у развіцці эканомікі краіны?**

— Наш калектыў верыць у гэта.

**Старонку падрыхтавалі Мікалай АМЕЛЬЧАНКА (фота) і Міхаіл МІХАЕВІЧ.**









**<u>На здымках:</u> галоўны механік Генадзь КРАПІВІН і галоўны бухгалтар Ларыса АНІШЧЫК; рабочы Віктар КАВАЛЬЧУК; апаратчыкі Сяргей САНЖАРОЎСКІ і Аляксандр БАННІКАЎ; зборшчыцы Раіса РАГАЛІНСКАЯ і Ніна ПАТЛІС.**

**Адрас і каардынаты для дзелавых партнёраў:**

**230015, г. ГРОДНА, бульвар ЛЕНІНСКАГА КАМСАМОЛА, 6.**

**ТЭЛ.: (8-0152) 33-09-48; 33-12-41.**

**ФАКС: 33-40-31.**

